© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

1 лістапада 2002 года
№ 44 (393)
Выходзіць па пятніцах

ПЛЮС Тэлетыдзень




## Навіны рэгіёна

### Кветкі нявінным ахвярам

ВІЛЕЙКА. Дзень памяці ахвяр палітычных рэпрэсій быў адзначаны 30 кастрычніка ўскладаннем кветак прадстаўнікамі партый і грамадскіх арганізацый на новых Вілейскіх могілках да помніка тым, хто нявінна загінуў.

Сюды ў сярэдзіне 90-х былі перазахаваныя шматлікія людскія астанкі, знойдзеныя на тэрыторыі старой Вілейскай турмы падчас будаўніцтва новага корпуса анкалагічнага дыспансера. На афіцыйным узроўні ніякіх мерапрыемстваў з нагоды Дня памяці не праводзілася.

Віталь ПАЎЛОЎСКІ.

### Прыязджалі нашчадкі Рушчыца

АШМЯНЫ. У Гальшаны прыязджалі з Польшчы 8 чалавек з сям'і знакамітага мастака Фердынанда Рушчыца.

Яны наведалі магілкі ў суседнім Багданаве, што на Валожыншчыне. У касцёле адслужылі імшу па мастаку.

Ірына РАБУШКА.

### На канікулы — без адзнак за чвэрць

МЯДЗЕЛ. Школьнікі раёна пайшлі на канікулы без адзнак за чвэрць. З гэтага навучальнага года ў школах Мядзельшчыны навучанне праходзіць па трыместрах. Першы з іх заканчваецца 30 лістапада — тады і будуць выстаўлены адзнакі. А канікулы засталіся ў тыя тэрміны, што і раней.

Навукоўцы лічаць, што навучанне па трыместрах лепей для дзяцей, ды іх веды можна ацаніць больш аб'ектыўна.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Знайшлі спакой

ВАЛОЖЫН. Падчас рэстаўрацыйных работ ў Мінску на плошчы Незалежнасці знайшлі астанкі, якія датуюцца канцом 19–га пачаткам 20–га стагоддзя. Як сведчаць гістарычныя дакументы, на месцы плошчы некалі былі яўрэйскія могілкі.

У чацвер астанкі перапахавалі на яўрэйскіх могілках, што ў Валожыне. Яўрэйскія могілкі ў Валожыне адны з нямногіх, якія сёння даглядаюцца і знаходзяцца непадалёк ад Мінска.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Першае свята ў Палацы

МАЛАДЗЕЧНА. Сёння ў Палацы культуры праходзіць урачыстае свята "Майстры мастацтва – майстрам працы", прысвечанае перадавікам вытворчасці.

Мінаблвыканком, які рыхтуе ўрачыстасць, запрасіў лепшых у вобласці медыкаў, урачоў, работнікаў культуры, будаўнікоў – усяго 850 чалавек.

Канцэрт ладзяць творчыя калектывы Маладзечаншчыны, Мінскага, Дзяржынскага і Валожынскага раёнаў.

Ірына РАБУШКА.

### Крыніцу «апранулі»

СМАРГОНЬ. Ідуць да заканчэння работы па добраўпарадкаванні крыніцы, што на ўскраіне райцэнтра. Гаррайінспекцыя аховы прыродных рэсурсаў навакольнага асяроддзя выдзеліла для гэтага 4 мільёны рублёў. Супрацоўнікі перасоўнай механізаванай службы "апранаюць" крынічку ў новае каменнае адзенне. Работы па добраўпарадкаванні прымеркаваныя да 500-годдзя Смаргоні, якое будзе адзначацца ў наступным годзе.

Тэрэза КУМІШЧА.

# Ад чаго здох лось?

## Астанкі лася ляжалі незакапанымі два месяцы

**МАЛАДЗЕЧНА. На ўскрайку лесу ля вёскі Малыя Кашэўнікі каля двух месяцаў ляжаў шкілет лася.**

На месцы засталіся голыя косткі, якія вясковыя сабакі расцягнулі на некалькі дзесяткаў метраў. Лес каля Малых Кашэўнікаў з'яўляецца зонай, забароненай для масавага палявання. Ёсць верагоднасць, што лася застрэлілі. А гэта цяжкае злачынства, бо паляванне на лася забароненае.

Ад чаго здох лось?

8 кастрычніка прадстаўнікі Маладзечанскай паляўнічай гаспадаркі, міліцыі і ветэрынарнай службы даследавалі астанкі. Напісалі, што прычынай смерці стала атручванне мінеральнымі ўгнаеннямі. Лабараторных аналізаў астанкаў не праводзілі – брацць там не было чаго. Адзін з тых, хто праводзіў агляд, – загадчык Гарадоцкай участковай ветэрынарнай лячэбніцы Віталь Валынец. Ён сказаў, што не выключае верагоднасці таго, што лася падстрэлілі. Але даказаць гэта ці абвергнуць немагчыма, бо скура разлажылася поўнасцю, мяса таксама не было.

Паляўнічы са шматгадовым досведам расказаў, што верагоднасць сваёй смерці не больш за 2-3 %. Толькі калі атруціцца калійнымі ўгнаеннямі, што ляжалі на палях. У савецкія часы гэта было не ў навінку. Цяпер у гаспадарках калійныя ўгнаенні – рэдкасць, бо яны дарагія. На навакольных палях ні аўтар гэтых радкоў, ні паляўнічы слядоў угнаенняў не бачыў.

Найбольш верагодным паляўнічы бачыць тое, што лася паранілі ці забілі. На карысць гэтай версіі гаворыць тое, што і афіцыйныя асобы не могуць на сто працэнтаў абвергнуць гэтае меркаванне. А калі згадаць, што паляванне на лася забароненае, то не будзе выглядаць фантастычнай здагадка, што гэта звычайнае браканьерства. За незаконную здабычу лася пагражае штраф ад 81 да 130 базавых велічынь (1,6-2,6 мільёна рублёў). Яшчэ могуць завесці крымінальную справу.

З дзесятак гадоў таму на лася можна было паляваць. Ласяціна ў часы Савецкага Саюза ішла на экспарт у Францыю, яна мела попыт за мяжой. Паляўнічыя атрымлівалі за забітага лася 120 савецкіх рублёў. Дастраляліся да таго, што хутка лось можа быць занесены ў Чырвоную Кнігу. І паляванне на лася забаранілі. Гадоў 7-8 назад ласі сталі сыходзіць з нашых лясоў. Ішлі ў Чарнобыльскую зону, далей ад людзей. Цяпер сталі вяртацца, бо чалавек з'явіўся і там.

Астанкі лася закапалі ў аўторак.

Юрый КАРПІЦКІ.




**Паблізу вёскі Малыя Кашэўнікі два месяцы праляжалі астанкі былога прыгажуна-лася. Прычына яго смерці застаецца загадкай.**



**Астанкі лася ля Малых Кашэўнікаў. Жывёльны свет Беларусі становіцца ўсё бяднейшым. Буйнейшага прадстаўніка аленевых – лася – цяпер рэдка сустрэнеш у нашым рэгіёне. Ласі пайшлі ў Чарнобыльскую зону. Тых жа, што засталіся або вярнуліся, можа чакаць незайздросны лёс.**

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

### Напярэдадні верасня 1939-га

Пачынаем серыю публікацый архівіста Наталлі Івановай аб лёсе сялянства былой Вілейскай вобласці. Сёння расказваем аб аграрнай палітыцы Польшчы на тэрыторыі Заходняй Беларусі.



5-я старонка

### Гелянова – горад у горадзе

Мала што нагадвае сённяшні раён вуліцы імя Машэрава прыгарад Маладзечна Гелянова (Галянова) сярэдзіны мінулага стагоддзя. Між тым сваё прадмесце мае сваю гісторыю...



8-я старонка

### Вызначальная перамога ў Віцебску

У перадапошнім туры чэмпіянату ў вышэйшай лізе па футболе маладзечанцы выйгралі з лікам 3:1 на выездзе ў свайго асноўнага канкурэнта ў барацьбе за месца пад сонцам віцебскага "Лакаматыва-96" і апярэджваюць яго на 2 ачкі. Ці застануцца маладзечанцы ў вышэйшай лізе, вырашыць заключны тур у нядзелю.

9-я старонка

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



■ МУЗЫКА

## Танга

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета канцэртны сезон у Маладзечанскім музычным вучылішчы імя А.К.Агінскага адкрыў камерны аркестр Брэсцкай абласной філармоніі.**

Кожны вучэбны год у вучылішчы пачынаецца новы канцэртны сезон. У ім удзельнічаюць розныя калектывы: ад невялікіх ансамбляў да аркестраў, пільная ўвага надаецца і сольным выступленням.

У гэтым годзе музычны сезон адкрыў камерны аркестр Брэсцкай абласной філармоніі, кіраўніком і дырыжорам якога з'яўляецца Аляксандр Мартыненка. Гэты чалавек добразычлівы, але адначасова – строгі, арганізаваны, адказны. Гэтыя якасці, якімі абавязкова павінны валодаць дырыжор, адлюстраваліся і ў выкананні аркестра, што было чуваць ужо з першых нот. Музыканты ігралі зладжана, здавалася, быццам гучыць вялікі сімфанічны аркестр.

Выступленне Брэсцкага камернага аркестра было цікава яшчэ і тым, што яго праграма адрознівалася сваёй разнастайнасцю і яскравасцю: на канцэрце гучалі творы класічных кампазітараў (Моцарт, Шапэн, Рахманінаў) і сучасных аўтараў (Элд, Амброзіа, Андэрсан і іншыя). Так, калі аркестр іграў "Незакончаны канцэрт" Рахманінава, здавалася, што кожная музычная фраза глыбока пранікала у сэрцы слухачоў.

Пасля бліскучага выступлення брэсцкіх артыстаў гледачы горача абмяркоўвалі майстэрства выканаўцаў. Слухачы ўпэўніліся ў знакамітых словах: "Жыццё кароткае, а мастацтва – вечнае".

**Вольга ЛОБАН, Маладзечна.**

■ КНІГІ

## «Крушэнне на ростані»

**МАЛАДЗЕЧНА. Адбылася прэзентацыя новай кнігі з такой назвай беларускага пісьменніка і публіцыста, прэзідэнта беларускага сацыяльна-эканамічнага саюза "Чарнобыль" Васіля Якавенкі. Яна прысвечана чарнобыльскай трагедыі і экалагічным праблемам.**

У прэзентацыі ўдзельнічала пісьменніца Вольга Іпатава, якая прывезла сваю кнігу "Між Масквой і Варшавай". А яе муж, член-карэспандэнт народнай Акадэміі гуманітарных інфармацый і тэхналогій, фізік-ядзершчык Ягор Фядзюшын разважаў з аўдыторыяй над праблемамі экалогіі.

**Ірына РАБУШКА.**

■ АНОНС

## «Круглы стол» у тэатры

**МАЛАДЗЕЧНА. Гарадскі аддзел адукацыі па справах моладзі сумесна з Мінскім абласным драматычным тэатрам запрашаюць усіх зацікаўленых асоб прыняць удзел у абмеркаванні тэмы "Школа, тэатр, горад".**

"Круглы стол" адбудзецца 6 лістапада ў 11 гадзін у памяшканні абдрамтэатра па адрасе: Маладзечна, вул.Чкалава, 7.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**



«Зімовая ноч».

# Карціны па памяці

**МАЛАДЗЕЧНА. У дзіцячай мастацкай школе праходзіць выстаўка мастака Аляксандра Пясецкага. Ён прызнаны мастаком года.**



**Аляксандр Пясецкі нарадзіўся ў 1935 годзе на Валожыншчыне ў Зарэччы. Закончыў сямігодку. У 1-ы клас пайшоў у 10 гадоў з-за таго, што была вайна. Працаваў у калгасе. Адслужыў 3 гады, 3 месяцы і 3 дні ў арміі ў Германіі. Паўтара года даявлося ўзнімаць цаліну. У 1960 годзе прыехаў у Маладзечна.**

З гэтай нагоды А.Пясецкі прапануе гледачам 23 свае работы. На іх – прырода ў розную пару года, родныя куткі Бацькаўшчыны. Часта ён піша карціны па памяці. Напрыклад, усё, што ўвасоблена ў "Зімовай ночы", мастак бачыў не адзін дзесятак гадоў таму.

Паглядзець яго творы прыязджаюць і з раёна, пра што сведчаць запісы ў кнізе водгукаў. Усе – ад дзяцей да пенсіянераў – дзякуюць за творчасць.

На ніве мастацтва А.Пясецкі працуе ўжо больш за 40 гадоў. Яго выстаўкі праходзілі ў Мінску, Маскве. Некаторыя работы знаходзяцца ў прыватных калекцыях у Польшчы, Літве, Малдове – усяго ў 18 краінах.

Жадаючыя могуць набыць карціны А.Пясецкага прама з выстаўкі. Яны каштуюць ад 50 да 85 тысяч рублёў.

**Ірына РАБУШКА.**

■ АРХІЎНАЯ СПРАВА

# Скарбы рэгіёна

У ліку шаснаццаці занальных дзяржархіваў Беларусі пачэснае месца займае і наш маладзечанскі. Заснаваны ён у далёкім перадваенным 1940 годзе, калі вобласць была яшчэ ў Вілейцы. У гады Вялікай Айчыннай вайны архіў, вядома, не працаваў, а ўсе яго найбольш цэнныя дакументы, каб захаваць, былі вывезены ў Расію. Толькі пасля вызвалення тэрыторыі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў установа аднавіла дзейнасць у Вілейцы.

Мяняліся межы абласцей і раёнаў, назвы, шыльды, калектывы... І толькі адно заставалася нязменным: амаль заўсёды калектыў архіва быў жаночым. У трох аддзелах установы іх начальнікі – жанчыны: Ілона Кутас, Наталля Іванова, Нэлі Калтакова. Іх падначаленыя – таксама працаўніцы архіўнай справы.

Сёння знятыя ўсе засловы з тайнаў архіўных фондаў. І даследчык мае права атрымаць любую справу. Толькі за апошні час у нас працавалі жыхары Францыі, Германіі, Польшчы, Ізраіля, ЗША, Англіі. Нямала было іх і з Расіі, Малдовы, Казахстана, краін Прыбалтыкі.

У выніку працы кандыдата медыцынскіх навук урачагематолага Франца Світы з'явілася "Кніга-памяць" аб сотнях медыкаў рэгіёна, што стаялі ля вытокаў так патрэбнай людзям службы. "Аграрныя пераўтварэнні ў Вілейскай вобласці ў 1939-1941 гг. Дакументы і матэрыялы" – такая кніга ўбачыла свет якраз напярэдадні бягучага года. Яе падрыхтоўка была пачатая дырэктарам дзяржархіва, заслужаным работнікам культуры Беларусі Расціславам Герасімовічам і начальнікам аддзела дзяржархіва Наталляй Івановай.

Дарэчы, Наталля Іванова з'яўляецца сааўтарам трох кніг, выдадзеных па матэрыялах нашага архіва, а адна з іх, "Злітуйцеся!", аб рэпрэсіях у перадваенны час у Вілейскай вобласці, выдадзена ў Польшчы. 16 верасня споўнілася 20 гадоў, як прыйшла яна ў наш дзяржархіў пасля вучобы ў БДУ і сёння ўзначальвае адзін з важнейшых напрамкаў яго дзейнасці — выкарыстанне дакументаў, стварэнне баз дадзеных з выкарыстаннем камп'ютэра. Яе падначаленыя-памочнікі заўсёды ўважлівыя, ветлівыя і шчырыя да наведвальнікаў. Бо ідуць і ідуць сюды людзі ў асноўным пажылыя ці старыя, хто прайшоў шляхамі панскай Польшчы, зведаў жахі рэпрэсій, прыгнёт і г.д. У поўнай меры гэта ўласціва супрацоўніцам аддзела Ірыне Краўчанка, Аксане Кандрашовай, Галіне Мігура.

У аддзеле, што займаецца захоўваннем, дзяржулікам, навукова-даведачным апаратам, шчыруюць ветэраны-архівісты. Узначальвае яго Нэлі Калтакова. У калектыве архіва ўжо больш за 30 гадоў. Столькі ж адпрацавала тут і Лія Пагуда. Больш чым па дваццаць гадоў аддалі архіву Зінаіда Сяліцкая і Марыя Кірыленка. Іх абавязак – захаваць патрэбны тэмпературна-вільготнасны рэжым, што зрабіць не вельмі проста. Памяшканне архіва – былая турма. Будынак моцна асеў, падступае вада (асабліва ў часы дажджоў). Так, пры панскай Польшчы, ды і пры "саветах", у будынку дзяржархіва, дзе захоўваецца гісторыя рэгіёна, была самая жудасная турма. Тут яшчэ дух тых часоў: краты, карцэры, заслоны... Адным словам – турэмная архітэктура, "турэмныя муры"!

Найбольш працаёмкі аддзел – гэта аддзел камплектавання ведамасных архіваў і справаводства. Узначальвае яго Ілона Кутас. Менавіта яго супрацоўніцы Іна Галавачова, Антаніна Абромчык, "энцыклапедыя" архіўных спраў Галіна Казура, Людміла Логвінава і аўтар гэтых радкоў найчасцей выязджаюць у камандзіроўкі, каб адабраць дакументы на дзяржаўнае захоўванне, аказаць кансультацыйна-метадычную дапамогу арганізацыям, установам (іх каля 300) па справаводству, працы архіва і інш.

**Мечыслаў СТАНКЕВІЧ, архівіст дзяржархіва ў Маладзечне.**

■ КОНКУРСЫ

## Гран–пры ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА. 26 кастрычніка дзіцячая музычная школа (ДМШ) на 2-м абласным фестывалі народнай творчасці "Напеў зямлі маёй" атрымала Гран-пры і ўзнагароджана мікрааўтобусам".**



**Цяпер Анатоль Шагаў з Вілейкі будзе іграць на канцэртным баяне «Слава», які атрымаў народны гурт «Любанія» як прыз на фестывалі "Напеў зямлі маёй" у Мар'інай Горцы. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі Анатоль Шагаў 20 год кіруе гэтым калектывам.**

Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

Пастаянным месцам правядзення фестывалю абраная Мар'іна Горка – малая радзіма старшыні журы фестывалю Ігара Лучанка. Ад ДМШ выступалі ўзорны хор "Жаравачка" і ўзорны ансамбль народнай музыкі "Самагуды".

Па палажэнні фестывалю, на самой справе, аўтамабіль застаўся ў раённым аддзеле культуры. Як кажа дырэктар ДМШ Бэці Аўдзеенка, мы засталіся з дзіркай ад бубліка.

1-е месца і музычны цэнтр атрымаў народны ансамбль народнай музыкі "Сакавінка" Маладзечанскага аддзела культуры райвыканкома.

Народны гурт з Вілейшчыны "Любанія", якім болей за 20 год кіруе заслужаны дзеяч культуры Беларусі, дырэктар Вілейскай школы мастацтваў Анатоль Шагаў, стаў першым у сваёй намінацыі і атрымаў прыз – канцэртны баян "Слава" коштам 8 мільёнаў рублёў. У розных намінацыях бралі ўдзел 43 народных калектывы. 12 з іх узнагароджаны каштоўнымі падарункамі.

**Ірына РАБУШКА, Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

## Камп'ютэрны клуб «Шторм»

**ВІЛЕЙКА. Амаль год працуе камп'ютэрны клуб "Шторм" – адна з чатырох падобных установаў у горадзе. Ад іншых "Шторм" адрозніваецца акрамя тэхнічнай забяспечанасці і прывабнага інтэр'ера яшчэ і сацыяльнай скіраванасцю.**

Гаспадар клуба Дзмітрый Алесік праводзіць цэнавую палітыку, вынікам якой з'яўляецца зніжэнне цэнаў амаль напалову для дзяцей Вілейскай школы–інтэрната.

Апошнім часам камп'ютэрныя клубы запрашаюць на работу сацыяльных педагогаў для правядзення заняткаў з дзецьмі-наведвальнікамі. Гэткая практыка мае месца ў Мінску. Клуб "Шторм" не жадае адставаць. Па словах Дзмітрыя Алесіка, ужо вяліся размовы с цэнтрам псіхалагічнай дапамогі "Дыялог" аб правядзенні заняткаў спецыялістамі цэнтра на базе клуба. Цяпер гэтая ініцыятыва прыпынена з–за рамонту памяшкання і афармлення інтэр'еру. А самае галоўная праблема ў тым, што клубу патрэбна мінімальная аплата за навучальны працэс.

"Шторм" супрацоўнічае з бацькамі тых наведвальнікаў, якія грэбуюць вучобай у школе на карысць камп'ютэрных гульняў. Імёны падобных аматараў віртуальнага свету трапляюць у "чорны" спіс, выключэнне з яго магчымае са згоды бацькоў.

Найбольш папулярныя ў клубе гульні. Што да Інтэрнэта, дык карыстаюцца ім адзінкі, бо тарыфы на беспарольны доступ даволі высокія.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**



**Канкурэнцыі вілейскі клуб "Шторм" не баіцца. На ўсіх лакальных камандных чэмпіянатах па камп'ютэрных гульнях пераможцамі з'яўляюцца выхаванцы яго клуба.**

Фота Віталя Паўлоўскага.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



■ ВЫТВОРЧАСЦЬ

# Баяны іграюць на «Славе»

**МАЛАДЗЕЧНА. Пасля таго, як фабрыка музычных інструментаў амаль спыніла выпуск баянаў, яе традыцыі падхапіла эксперыментальная вытворчасць кампаніі “Слава”. Аб’ёмы вымяраюцца дзесяткамі штук у год. Аб масавай вытворчасці гаворка не ідзе. Выпускаюць тут столькі баянаў, колькі патрабуюць заказчыкі.**



Майстар Міхаіл Сіцько. У гэтым пакоі амаль заўсёды цёмна. Тут «нараджаецца» музыка.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Узначальвае вытворчасць **Расціслаў Мойса**, які размаўляе на чысцюткай беларускай мове, спявае і ў 30 гадоў сам навучыўся іграць на баяне.

Эксперыментальная вытворчасць існуе са студзеня 1994 года і ўваходзіць у склад гандлёва-вытворчага ўнітарнага прадпрыемства “Слава”. У заснавальніка прадпрыемства **Вячаслава Рака** была ў юнацтве ружовая мара – мець добры баян. Але грошай у сям’і на гэтую пакупку не было. Баян, які ён хацеў у 90-я гады, каштаваў 4-5 тысяч рублёў, як аўтамабіль “Жыгулі”.

... Больш чым праз год на эксперыментальнай вытворчасці ўбачыў свет баян з фірменным знакам “SLAVA”. Яго прадалі ў Сочы. Цяпер нашыя баяны гучаць у Італіі, Германіі, Польшчы, Чэхіі. Шмат баянаў прадаюць у Расію. На іх іграюць і ў папулярных беларускіх ансамблях “Харошкі”, “Сваякі”. Два інструменты зрабілі для Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. У Маладзечне па аднаму “слаўнаму” баяну ёсць у музычнай школе і школе мастацтваў.

Дызайн баянаў распрацоўвае сам дырэктар Р.Мойса. Па канструкцыі яны таксама адрозніваюцца: тры віды ёсць. Аказваецца, у Беларусі і Фінляндыі іграюць на розных баянах. Матэрыял для вытворчасці баянаў купляюць у Чэхіі, Германіі, Італіі.

Каля 5% ад усёй выпускаемай колькасці баянаў бацькі купляюць сваім дзецям. Напэўна, гэта з-за высокага кошту, які тлумачыцца ручной зборкай музычнага інструмента. Адзін баян каштуе ад 1600 да 6500 долараў. У адным інструменце ў сярэднім 2,5 тысячы дэталяў, аважыць ён 8-14 кілаграмаў.

Гучаць могуць маладзечанскія баяны па-рознаму. Напрыклад, як арган ці фагот – усяго 15 варыянтаў. Настройваюць баян ад 2 тыдняў да месяца. Гэта можна зрабіць з дапамогай спецыяльнага прыбора. На вытворчасці “Слава” настройвае інструменты **Юрый Рабушка**. На прадпрыемстве яго лічаць майстрам сусветнага ўзроўню. На настройшчыкаў нідзе не вучаць. Галоўнае, каб чалавек чуў музыку. Трэба зазначыць, што ў кожнага настройшчыка баян гучыць па-асабліваму.

Дарэчы, з 28-мі супрацоўнікаў палова мае музычную адукацыю. Дырэктар Р.Мойса гаворыць: “Здаецца, неблагі аркестрык маглі б збамзіць”.

**Ірына РАБУШКА.**




■ ЭКАНОМІКА

## Маладзечна адстае ад плана

**МАЛАДЗЕЧНА. Па выніках 9 месяцаў горад выконвае 2 з 8-мі запланаваных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця: вытворчасць спажывецкіх тавараў і таваразварот.**

Адставанне ў астатніх паказчыках не такое і вялікае – 5-7%. У выпуску прамысловых тавараў гэта тлумачыцца тым, што 10 прадпрыемстваў з 37 не дасягнулі леташняга ўзроўню. “Лідэры” – “Белпрамкультура”, “Гарант” і завод металаканструкцый. У сувязі з невыкананнем планавых паказчыкаў і нізкай заработнай платай бюджэт недаатрымаў 177 мільёнаў рублёў. План па выпуску спажывецкіх тавараў выконваецца за кошт 11 з 28 прадпрыемстваў. Астатнія пакуль не дацягваюць.

**Аддзел інфармацыі “РГ”.**

■ ЭКАЛОГІЯ

## Будзе чыстай крыніца

**ВІЛЕЙКА. У канцы кастрычніка вучні Іжанскай сярэдняй школы прывялі ў парадак крынічку, што непадалёк ад урочышча Казачок на Нарачанцы.**

Узвялі кампактнае збудаванне, лавачку для адпачынку, абрэзалі сукі з дрэў, якія звісалі над крынічкай, прачысцілі яе. А ў гушчары знайшлі яшчэ 5 крынічак.

У Іжанскай школе многа год працуе гурток “Юны эколаг”. Другі год запар гуртоўцы ўдзельнічаюць у біяэкалагічным маніторынгу па ахове малых рэк і вадаёмаў ў складзе міжнароднага эколага–адукацыйнага праекта “Дняпроўскае сузор’е”. Кіруе работай юных эколагаў у Іжы настаўніца біялогіі Галіна Міргалоўская.

Упарадкаванне крынічкі праведзена як акцыя Дня малых рэк Беларусі. Іжа раскінулася ўздоўж Нарачанкі, адной з такіх рэчак.

**Яна ХАДАНОВІЧ, 6-класніца Іжанскай сярэдняй школы, гурток “Юны эколаг”.**

■ ГАНДАЛЬ

## Праверкі асартыменту будуць узмацняцца

**МАЛАДЗЕЧНА. Асартымент, якім гандлююць магазіны і іншыя гандлёвыя пункты, правяраецца гарвыканкомам штодзень. Камісія правярае, ці можна купіць мясцовыя тавары.**

Першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык** на паседжанні з удзелам кіраўнікоў гарадскіх прадпрыемстваў гандлю і з прадпрымальнікамі расказаў, што 39 з 47-мі прадпрыемстваў вытрымліваюць свой асартымент. 8 прадпрыемстваў распараджэнне гарвыканкома выконваюць не да канца. Сэнс распараджэння ў тым, што, калі магазін ці кіёск гандлюе харчовымі таварамі: мяснымі, малочнымі, півам, там сярод іншых павінная быць у поўным асартыменце прадукцыя маладзечанскіх вытворцаў.

Піўзавод 14 кастрычніка правёў рэйд па ўсіх гарадскіх кіёсках і аказалася, што маладзечанскага піва не было ў многіх кіёсках. Яфім Ідэльчык сказаў, што ў гэтыя чацвер і пятніцу гарвыканком зноў правядзе праверку па піве. Уладальнікам гандлёвых пунктаў, у якіх не будзе маладзечанскага піва на момант праверкі, пагражае пазбаўленне ліцэнзіі на рознічны гандаль.

Таксама разглядаўся гандаль мяснымі і малочнымі таварамі. Да гармалзавода прэтэнзій няма. А дырэктара мясакамбіната Яфім Ідэльчык папрасіў навесці парадак у рабоце маркетынгавай службы.

**Аддзел інфармацыі “РГ”.**

■ ЗДАРЭННЕ

## Нешчаслівае падарожжа

МАЛАДЗЕЧНА. У сераду каля 5 гадзін раніцы па дарозе з горада на вёску Раеўшчына вадзіцель аўтамабіля з’ехаў у кювет і перакуліўся ў вадаём. У машыне ехала 9 чалавек. Не абышлося без цяжкіх траўмаў. 17-гадовая дзяўчына памерла ў бальніцы. Мяркуецца, што ад патаплення. Вадзіцеля адшукваюць.

**Ірына РАБУШКА.**

### Курсы валют НБ РБ

| | 24 кастрычніка | 31 кастрычніка |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1879,00 руб. | **1884,00** руб. |
| Еўра | 1839,45 руб. | **1853,29** руб. |
| Злоты | 459,90 руб. | **465,26** руб. |
| Літ | 532,82 руб. | **536,57** руб. |
| Расійскі рубель | 59,24 руб. | **59,36** руб. |

**“Вулічныя” курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1870-1880 руб. | **1880-1900** руб. |

### Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 23.10 | 30.10 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10990 | **10990** |
| Сасіскі, 1 кг | 4900 | **4900** |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | **2500** |
| Рыс, 1 кг | 700 | **700** |
| Грэчка, 1 кг | 550 | **580** |
| Цукар, 1 кг | 815 | **865** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1380 | **1380** |
| Алей, 1 л | 1950 | **2000** |
| Маянэз, 200 г | 400 | **400** |
| Кава “Пеле”, 100 г | 1900 | **1900** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | **600** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 700 | **700** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 450 | **500** |
| Капуста, 1 кг | 400 | **400** |
| Лімоны, 1 кг | 1700 | **1750** |
| Апельсіны, 1 кг | 1450 | **1450** |
| Памідоры, 1 кг | 750 | **700** |
| Кавуны, 1 кг | 200 | **350** |
| Морква, 1 кг | 450 | **500** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1 л | 600 | **800** |
| Смятана, 1 л | 1800 | **1800** |
| Масла, 1 кг | 4000 | **4000** |
| Тварог, 1 кг | 1600 | **1700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1300 | **1600** |
| Бульба, 1 вядро | 2800 | **2800** |
| Яблыкі, 1 кг | 300 | **450** |
| Журавіны, 5-л. вядро | 7500 | **6500** |

■ НАШЫЯ ГРОШЫ

## Якія зарплаты ў Маладзечне?

**МАЛАДЗЕЧНА. На 23 гарадскіх прамысловых прадпрыемствах з 42-х сярэдняя заработная плата ніжэй за эквівалент 100 долараў ЗША.**

Сярэднегарадская жнівеньская зарплата складае 218,6 тысячы рублёў, ці 117 долараў. Па інфармацыі гарвыканкома, у прамысловасці 42% рабочых працуюць на адстаючых прадпрыемствах.

### Дзе ў Маладзечне менш плацяць?

| Прадпрыемства | Сярэдняя зарплата за верасень, эквівалент долараў ЗША |
|---|---|
| 1. Малпрамтара | 30,7 |
| 2. Гарант | 41,4 |
| 3. Маладзечанскі аўтатэхсервіс | 51,9 |
| 4. Міг-ЛТД | 52,1 |
| 5. Фабрыка “Бярозка” | 56,6 |
| 6. Маладзечнабыт | 60,5 |
| 7. Фабрыка музінструментаў | 61,6 |

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ДЭМАГРАФІЯ

## Гродзеншчына вымірае

**ГРОДНА. На Гродзеншчыне памірае больш людзей, чым нараджаецца.**

Ад пачатку года насельніцтва вобласці скарацілася больш як на шэсць тысяч чалавек і склала на 1 кастрычніка мільён 160 тысяч.

Гэтае звязана з перавышэннем колькасці памерлых над колькасцю народжаных. На працягу апошніх дзевяці месяцаў гэтага года памерла больш за 13,5 тысячы чалавек, а нарадзілася каля васьмі тысяч.

**Паводле “Радыё Рацыя”.**

Беларуская служба Радыё Свабода

| час | kHz | хвалі |
|---|---|---|
| 18:00-20:00 | 7190 / 9615 / 15460 / 612 і 1188 | 41 / 31 / 19 / сярэднія хвалі |
| 20:00-22:00 | 6140 / 7205 / 9865 / 612 | 49 / 41 / 31 / сярэднія хвалі |
| 22:00-24:00 | 6140 / 7205/6010 / 9845 / 612 і 1188 | 49 / 41 / 31 / сярэднія хвалі |
| 06:00-08:00 | 6140 / 9615 / 9835 / 612 і 1188 | 49 / 31 / 31 / сярэднія хвалі |

Чэхія: Vinohradska 1, Praha 11000 CZ
Беларусь: п/с 111, Менск, 220005
Інтэрнэт: www.svaboda.org

RADIO FREE EUROPE RADIO LIBERTY

Настройцеся на Свабоду!

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



■ РЫНАК ПРАЦЫ

# Жадаючым даецца жыллё

**Прапануем інфармацыю для тых, што шукае работу і згодны на пераезд у вёску. Гаспадаркі рэгіёна прапануюць запоўніць вакансіі. Жыллё таксама даецца.**

| Гаспадаркі | Вакансіі | Кол.св. месцаў | Зарплата (тыс.руб.) | Жыллё |
|---|---|---|---|---|
| **Смаргонскі раён. Тэл. раённага цэнтра занятасці насельніцтва 3-22-39** | | | | |
| Калгас "Кастрычніцкі", в.Крэва, т.9-34-18 | даяр | 2 | 80,0 | сельскі дом |
| | механізатар | 6 | 90,0 | сельскі дом |
| | электрык | 1 | 60,0 | сельскі дом |
| | загадчык гаспадаркі | 1 | 75,0 | сельскі дом |
| | загарчык аддзялення | 1 | 60,0 | сельскі дом |
| Калгас імя Леніна, в.Залессе, т.9-21-10 | вартаўнік | 1 | 50,0 | сельскі дом |
| | загадчык майстэрні | 1 | 70,0 | сельскі дом |
| **Вілейскі раён. Тэл. раённага цэнтра занятасці насельніцтва 5-65-88** | | | | |
| Калгас "Чырвоны Кастрычнік", в.Бубны, т.4-96-32 | прараб | 1 | ад прадукцыі | 2-пакаёвая кв. |
| | аграном | 1 | ад прадукцыі | |
| Саўгас "Лукавец", в.Лукавец, т.4-03-10 | бухгалтар | 2 | ад прадукцыі | 3 кватэры, 1 дом |
| | электрык | 1 | | |
| | токар | 1 | | |
| | зваршчык | 1 | | |
| | вадзіцелі | 4 | | |
| | трактарысты | 6 | | |
| | жывёлаводы | 10 | | |
| | слесар | 1 | | |
| | паляводы | 3 | | |
| Калгас "Чырвоны Сцяг", в.Журыхі, т. 7-41-34 | трактарысты | 6 | ад прадукцыі | 3 кватэры |
| | вадзіцелі | 4 | | |
| | жывёлаводы | 4 | | |
| Калгас "Ленінскі камсамол", в.Балашы, т. 6-11-32 | даяркі | 3 | ад прадукцыі | 3-пак.кв., 1-пак.кв., 2-пак.кв. |
| | гал.інжынер | 1 | | |
| | загадчык фермы | 1 | | |
| Калгас "Вілейскі", в.Куранец, т. 4-62-41 | трактарысты | 3 | ад прадукцыі | сельскія дамы |
| Саўгас "Беларускі", в.Людвінова, т. 6-34-24 | трактарысты (К-700) | 2 | ад прадукцыі | 3-пак. кв. |
| Калгас "За мір", в.Забалацце, т. 4-12-42 | гал.аграном | 1 | ад прадукцыі | 1 кватэра, 1 дом |
| | брыгадзір паляводства | 1 | | |
| | аграном-насеннявод | 1 | | |
| Калгас "Рассвет", в.Іжа, т.4-46-89 | слесар | 1 | ад прадукцыі | адна 3-пак.кв. |
| | газазваршчык | 1 | | |
| | трактарысты | 5 | | |
| Калгас "Вязынь", в.Вязынь, т. 6-63-22 | прараб | 1 | ад прадукцыі | дамы |
| | даяркі | 3 | | |
| Калгас "Зара", в.Ерхі, т.7-43-33 | інжынеры | 2 | ад прадукцыі | катэджы прысядзібнага тыпу |
| | заатэхнік | 1 | | |
| | гал.інжынер | 1 | | |
| **Мядзельскі раён. Тэл. раённага цэнтра занятасці насельніцтва 5-48-42** | | | | |
| ПХС "Дзягілі", т.36-5-41 | інжынер-энергетык | 1 | 120,0 | дом прысядзібнага тыпу |
| | электрык | 1 | 70,0 | |
| | гал. інжынер | 1 | 120,0 | |
| Калгас імя Кірава, т. 36-7-31 | гал. інжынер | 1 | | дом прысядзібнага тыпу |
| | гал. бухгалтар | 1 | | |
| | гал.заатэхнік | 1 | | |
| | інжынер-электрык | 1 | | |
| | каваль | 1 | | |
| | газаэлектразваршчык | 1 | | |
| | інжынер па ТП | 1 | | |
| | інжынер па ахове працы | 1 | | |
| | інжынер па эксплуат. МТП | 1 | | |
| | даяркі | 2 | | |
| | трактарыст | 1 | | |
| Калгас "Пераможца", т. 38-7-31, 38-7-32 | каваль | 1 | 90,0 | дом прысядзібнага тыпу |
| | трактарысты | 4 | 120,0 | |
| Калгас "Прыазёрны", т.46-3-85 | гал.бухгалтар | 1 | 150,0 | дом прысядзібнага тыпу |
| | загадчык майстэрняў | 1 | 100,0 | |
| | брыг. палявод. брыгады | 2 | 100,0 | |
| | токар | 1 | здзельная | |
| | каваль | 1 | здзельная | |
| | трактарысты | 2 | здзельная | |
| | ветдоктар | 1 | 125,0 | |
| Мядзельскае раённае тэрытарыяльнае медыцынскае аб'яднанне, т. 59-3-05 | доктар-хірург | 2 | | ёсць жыллё |
| | доктар-тэрапеўт | 4 | | |
| | доктар-педыятр | 3 | | |
| | доктар-рэаніматолаг | 2 | | |
| | доктар-рэнтгенолаг | 2 | | |
| | фельчар | 7 | | |
| Калгас "Будслаўскі", т.31-3-10 | гал.ветдоктар | 1 | | ёсць жыллё |
| | ветфельчар | 1 | | |
| | прараб | 1 | | |
| Калгас "Ленінскі шлях", т.32-1-30 | інжынер | 1 | 87,0 | ёсць жыллё |
| | ветфельчар | 1 | 50,0 | |
| | даярка | 2 | 100,0 | |
| | трактарыст | 2 | 80,0 | |
| | электрык-энергетык | 1 | 87,0 | |
| Калгас "Свір", т.4-26-52 | даярка | 1 | | катэдж |
| | пастух | 1 | | |
| СПК "Брусы", т.3-84-63 | аператар | 3 | 120,0 | ёсць жыллё |
| | мыйшчык секцый для жывёлы | 1 | 150,0 | |

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ МЕДЫЦЫНА

# Каб падоўжыць жыццё

**МАЛАДЗЕЧНА. Кожны тыдзень новае аддзяленне ачышчэння ныркаў (гемадыяліз) у гарадской бальніцы напаўняецца двума хворымі. Працуе гэтае аддзяленне больш за месяц. Людзі прыязджаюць амаль з усяго рэгіёну. Спачатку 2-3 працэдуры праходзяць у Мінскай абласной клінічнай бальніцы, што ў Бараўлянах. Потым у Маладзечанскай бальніцы, дзе і "прапісваюцца" на ўсё жыццё.**



**Загадчык аддзялення гемадыялізу Уладзімір Галыгін на пачатку рабочага дня.** Фота Ірыны Рабушкі.

Адначасова працэдуру могуць праходзіць 6 чалавек. На апараце задаецца пэўная праграма ў залежнасці ад росту, вагі, складанасці захворвання, а таксама, колькі і чаго з'еў, выпіў хворы паміж працэдурамі. Трэба захоўваць строгую дыету. Напрыклад, вадкасці можна не больш за 1 літр у дзень. У сярэднім гемадыяліз доўжыцца па 4 гадзіны 3 разы на тыдзень. Гэта абсалютна бязбольна. Праз 20-30 хвілін чалавека адпускаюць дамоў. Адзінае, на што можа скардзіцца пацыент, — моцнае жаданне паесці.

Сярэдні ўзрост хворых – 40 гадоў. Самаму маладому – 25, стараму – 52. Усе пацыенты – інваліды I (непрацоўнай) групы па хранічнай ныркавай недастатковасці (ХНН). Па словах загадчыка аддзялення гемадыялізу Уладзіміра Галыгіна, ХНН лічыцца дастаткова рэдкай хваробай у параўнанні з захворваннямі сэрца, але колькасць тых, хто пакутуе на яе, хутка расце.

Захворванню ныркаў спрыяе курэнне, алкагалізм, мочапалавыя інфекцыі, венерычныя захворванні, ангіна, цукровы дыябет, прыроджаная схільнасць, ускладненне асноўнай хваробы альбо перадаецца ў спадчыну. З цягам часу ныркі наогул могуць перастаць працаваць. А вылечыць ужо немагчыма, толькі падтрымаць іх стан.

Гемадыяліз таксама падыходзіць не ўсім. Наогул, дактары імкнуцца як мага даўжэй захаваць працаздольнасць ныркаў.

Максімальна аддзяленне гемадыялізу можа працаваць у 4 змены.

Каб прадухіліць тэхнічныя збоі, дадаткова ўвялі 2 інжынерныя вакансіі. Абедзве яшчэ свабодныя.

Працэдура ачышчэння арганізма бясплатная. Дарэчы, так ва ўсім свеце. Нашай дзяржаве яна абыходзіцца ў 58 тысяч рублёў. Цана мяняецца. Адзін апарат каштуе 9 тысяч долараў.

У тых пацыентаў, што сёння лечацца ў аддзяленні, самы вялікі "стаж" 8 гадоў. Ёсць хворыя, якія пражылі на гемадыялізе, каля 20 гадоў.

**Ірына РАБУШКА.**

**Рэклама ў «Рэгіянальнай газеце» тэл. у Маладзечне 53841**

Маладзечанскі філіял РУПП «Віцязь» і Вілейскі філіял ДУП МТГЦ «Гарант» праводзяць **продаж новых тэлевізараў «Віцязь» у растэрміноўку на 3 месяцы без аплаты працэнтаў за карыстанне крэдытам.**
Гарантыя на тэлевізары 36 месяцаў.
Маладзечна, вул. Прытыцкага, 4, тэл. 71376, гандлёвы дом "Віцязь".
Вілейка, вул.Піянерская,47, тэл. 54672.
Падлягае абавязковай сертыфікацыі. Ліц. №1233 Віцебскага аблвыканкома ад 15.09.2001 да 15.09.2006 г.

Рыхтуем вадзіцеляў катэгорыі «ВС».
Навучанне платнае.
Тэрмін навучання – 4 месяцы.
Тэл. у Вілейцы
54668, 54876.
Ліц. №01276 МУС РБ 27.03.2002-27.03.2007.

**Наркалогія**
**Перарыванне запою** (кругласутачна).
**Комплекснае лячэнне** алкагалізму.
**Індывідуальны прыём** па папярэднім запісе.
Маладзечна, вул. Вольная, 12
Тэл. у Маладзечне 37275, 50974, (8-029) 6337275.
Ліц. №954 МАЗ РБ 8.06.1999-8.06.2004.

*Арганізацыі патрабуюцца:*
• *сталяры па вырабе вокнаў і міжпакаёвых дзвярэй з драўніны і па нямецкай тэхналогіі,*
• *фрэзероўшчыкі па дрэваапрацоўцы,*
• *слесары-рамонтнікі д/а абсталявання V-VI разрадаў*
• *галоўны механік.*
Тэл. у Маладзечне 71980.

**З 16.10.2002 у рамонтнай майстэрні ААТ «Вілейская райаграпрамтэхніка» пачаў працаваць рамонтна-механічны ўчастак №2 УП «РОСИД-97» (Мінск) па рамонце кампрэсараў.**
– Тэхнічнае абслугоўванне і рамонт кампрэсараў і кампрэсарных установак усіх тыпаў.
– Пастаўка новых кампрэсараў, паветразборнікаў, запчастак да іх.
– Мантаж і пуска-наладачныя работы па дадзеным абсталяванні.
– Тэхнічнае абслугоўванне і рамонт КІПіА кампрэсараў, пастаўка новай апаратуры.
– Камісійны продаж абсталявання, якое было ў карыстанні або не выкарыстоўвалася.
– Пастаўка тэхналагічнага абсталявання розных галін (фільтры: паветраныя, вінныя, піўныя і інш.).
**222417, Мінская вобл., Вілейскі р-н, в. Шылавічы, вул. Савецкая, д.8. Тэл. у Вілейцы (8-271) 42284, тэл/факс (8-271) 55454.**
Падлягае абавязковай сертыфікацыі. Ліц. №18249 МГВК 4.10.2000-4.10.2005. Ліц. №№021298, 021299, 021300 Праматамнагляду РБ 18.09.2000-16.04.2003.

**Ресторану «Резонанс»**
в г. Сморгонь для проведения вечеров отдыха требуется
**коллектив музыкантов или солист.**
Тел. в Сморгони (8-01592) 52200.

**ПЯЧАТКІ, ШТАМПЫ, ГРАВІРОЎКА**
*г. Маладзечна, вул. Буйніцкага, 63, тэл. 54402. ТДА «ВІЗІТ».*
Ліц. №006 МУС РБ ад 20.05.1998 г. да 20.05.2003 г.

**РУБЕРОЙД**
Цана вытворцы.
Склад у пгт. Ратамка Мінскага р-на.
Тэл. у Мінску 2747920.
Падлягае абавязковай сертыфікацыі.
Ліц. №31742 МГВК 13.06.2002-13.06.2007.

*Арганізацыя рэалізуе*
**ДОШКУ ДЛЯ ПАДЛОГІ, ПЛІНТУС, НАЛІЧНІК.**
*Тэл. у Маладзечне 77877, (8-029) 6181855.*
Ліц. №861 Маладзечанскага ГВК ад 27.07.2000 да 27.07.2005 г.

**Магазін «Аўтазапчасткі»**
*Маладзечна, вул. Валынца, 12.*
**Шыны**, **тасол**, **антыфрыз**, **масла** (Mannol), **фільтры**, **свечы**, **электраліт**, **аўтахімія** і інш.
Тэл. у Маладзечне 74054 (розніца).
GSM (8-029) 6757543.
Тэл. у Мінску 2638069 (опт).
Падлягае абавязковай сертыфікацыі. Ліц. №10940 МГВК 13.06.2000-13.06.2005гг.

Ад вытворцы
Фірма-дыстрыб'ютэр піўзаводаў **«Аліварыя»**, **«Крыніца»**, **«Лідскае піва»**
**прапануе піва**
па цане заводаў-вытворцаў са склада ў Маладзечне.
Тэл. у Маладзечне 53775.
Падлягае абавязковай сертыфікацыі.

**ПОМНІКІ**
**з каліброванага граніту**
*Дастаўка па РБ — бясплатная.*
Тэл. у Маладзечне . 31294, 62895
Тэл. у Вілейцы ........ 57135.
Тэл. у Валожыне ..... 55140.
Тэл. у Мядзеле ........ 55720.
Тэл. у Нарачы ......... 47000.
Тэл. у Астраўцы ..... 21508.
Тэл. у Ашмянах ...... 42970.
Тэл. у Смаргоні ...... 34547.

**Пастаянна купляем піловачнік круглы хваёвых парод.**
Тэл. у Маладзечне 96242, (8-029) 2765923.

**Помнікі з граніту і мармуровай крошкі.**
Розныя формы і памеры.
Тэл. у Маладзечне 34171

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Напярэдадні верасня 1939-га

## Зямельныя рэформы ў 1920-30-х гадах давялі да галечы беларускія вёскі

**17 верасня 1939 года прынёс на землі Заходняй Беларусі новы лад жыцця, новыя грамадскія з'явы. Сяляне новаўтворанай Вілейскай вобласці, хто з жахам, хто з надзеяй чакалі калектывізацыі. Досвед жыцця ў Рэчы Паспалітай падказваў: вясковец застаецца крайнім пры любой уладзе...**

Перад савецкім урадам у 1939-1941 гг., пасля ўваходу Заходняй Беларусі ў склад Савецкага Саюза, аграрная праблема паўстала вельмі востра: сельская гаспадарка была адсталай, становішча сялянства – цяжкім.


Так абраблялі зямлю ў Заходняй Беларусі. Сярэдзіна 1930-х гадоў.
Фота з фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне.

### З'яўленне асаднікаў

У 1921-1939-х гадах урад Рэчы Паспалітай, у склад якой уваходзіла Заходняя Беларусь, правёў зямельную рэформу. У 1925 годзе быў прыняты "Закон аб ажыццяўленні зямельнай рэформы", які ўвайшоў у гісторыю як "Закон аб парцэляцыі і аблогах". Сутнасць гэтай рэформы заключалася ў продажы дробнымі ўчасткамі некаторай часткі памешчыцкіх земляў і хутарызацыі сялянскіх гаспадарак з ліквідацыяй сэрвітутаў. Дадзеная рэформа на "ўсходніх крэсах" (так называліся ў Польшчы заходнебеларускія землі) звязана з засяленнем дадзенай тэрыторыі ваеннымі каланістамі — асаднікамі. Іх хутары цягнуліся ўздоўж польска-савецкай мяжы і выконвалі, акрамя асноўнай, таксама паліцэйскія функцыі. У Віленскім ваяводстве на кожнага ваеннага асадніка прыходзілася ў сярэднім 16,5 га зямлі.

Дробныя і сярэднія сялянскія гаспадаркі набыць зямлю практычна не маглі па прычыне яе вельмі высокага кошту. Дзяржаўны банк за крэдыты на пакупку зямлі браў не менш за 12% гадавых. У выніку да 1935 года, у параўнанні з 1921 годам, бедныя гаспадаркі павялічылі ў сярэднім свае зямельныя ўладанні на 2,1 га, сярэднія – на 2,7, кулацкія – на 3,9 га. Такім чынам, большасць памешчыкаў у Заходняй Беларусі захавала свае ўладанні, і буйное памешчыцкае землеўладанне засталося непарушным.

### Рэформы Пілсудскага

З 1927 года ўрад Пілсудскага пачаў правядзенне масавай хутарызацыі. За ўвесь перыяд знаходжання Заходняй Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай на хутары было выселена 43% сялянскіх гаспадарак, якім належала каля 50% сялянскай зямлі. Ліквідацыя сэрвітутаў (бясплатнае карыстанне сялянамі лесу і выпасу), якая праводзілася ў выніку гэтай рэформы, была накіраваная на ўмацаванне капіталістычных адносінаў у вёсцы, але прынесла выгоду толькі памешчыкам.

Самымі буйнымі землеўладальнікамі ў гэтым рэгіёне былі: Гародненская Соф'я, якой належаў маёнтак Вязынь з фальваркамі – 9000 га зямлі; Багдановіч Мечыслаў – маёнтак Абадоўцы, Старынкі, кардонная фабрыка "Раёўка" і інш. – 6000 га; Аскірка – маёнтак Будслаў, Азярцы і інш. – 6000 га.

Аднак варта зазначыць, што дакументы трактуюць землеўладанні Вілейскай вобласці па-рознаму. Прывядзём звесткі з дакумента аб землекарыстанні на дадзенай тэрыторыі ў 1939 годзе: памешчыцкіх маёнткаў – 438, зямлі – 114000 га, што складае 13% агульнага землекарыстання, аблогавых гаспадарак – 441, ім належала 8500 га зямлі, – 1% землекарыстання, сялянскіх гаспадарак – 119120, зямлі у іх – 778533 га – 86% агульнай колькасці.

### Банкі не ратавалі селяніна

Вось вытрымкі з артыкула з газеты "Народная справа" (орган БКРГ) ад 2 ліпеня 1926 года аб давядзенні да галечы сялянства ў сувязі з законам "Аб парцэляцыі і аблогах": "Калі хлебароб пазычыў у дзяржаўным банку, прыкладам, 100 злотых сёння, калі курс долара 10 злотых (курс золата заўсёды крыху вышэй), а праз нейкі час курс долара, барані бог, падскочыць, прыкладам, ўдвая, стаўшы зноў на даўжэйшы час цвёрда на 20 злотых, тады пазычаная селянінам сума таксама будзе лічыцца дзяржаўным банкам удвая, ці замест 1000 злотых вырасце ў 2000 злотых. Дык, зразумела, і працэнты банк будзе спаганяць з даўжніка ўжо з "валёрызаванай" сумы 2000 злотых... і гэта зусім незалежна ад таго, ці таксама, як пры пераводзе на золата і долары, зменшылася сіла польскага злотага ў краі.

Каб гэта стала зусім ясна, возьмем параўнанне з мінулым годам. Кожны ведае, што "залатая вартасць" злотага, ці яго курс адносна да долара цяпер роўна ўдвая меншая, чым год назад, але пакупная вартасць злотага ў краін засталася больш-менш такая ж, як была ў мінулым годзе. Гэта значыць, што цэны ў злотых засталіся ў краі тыя ж, але пры пераводзе на золата яны ўпалі ўдвая.

Калі б выдадзенае камітэтам "правіла" дзеяла назад, тады селянін, які пазычыў год таму 1000 злотых, будзе мець раптам на карку доўгу аж 2000 злотых, хаця зусім не было адпаведнага падзення пакупной сілы злотага ў краі, і селянін мусіць па старых цэнах за злотыя прадаваць свае прадукты, якія ён мае з купленай зямлі (хлеб і інш.). Тое ж самае пагражае ўсім сялянам – кліентам дзяржаўных банкаў і тады, калі толькі ад сёння (а не назад) будуць звалёрызаваны па залатым курсе дня ўсе іх пазыкі і калі ў далейшым "залатая вартасць злотага" (яго замежны курс) будзе спадаць, не выключаючы адначасова такога ж спаду ўнутранай вартасці злотага ці адпаведнага росту цэн у краі... Тады селянін-даўжнік польскай дзяржавы, нават калі будзе плаціць акуратна падвойныя ці патройныя працэнты, не толькі не будзе з часам сплачваць свой доўг, але наадварот, усё глыбей залазіць з галавой у кабалу, бо доўг будзе расці...

Вядома ж, такой "крэдытнай дапамогі" з боку дзяржавы не вытрымае не толькі маладая і не вельмі моцная гаспадарка малазямельніка, але нават моцная – абшарніцкая, дый не толькі ў нашыя крытычныя часы...".

Наступны дакумент – карэспандэнцыя аб стварэнні сялянскага камітэта і барацьбе за зямлю сялян в.Палачаны Маладзечанскага павета, надрукаваная ў газеце "Чырвоны сцяг" №6(48) ад кастрычніка 1926 года: "Недалёка ад Палачан Маладзечанскага павета быў вызначаны маёнтак пад парцэляцыю. Кулакі ды асаднікі пачалі набываць зямлю з гэтага маёнтка. Сяляне Палачанаў выбралі вясковы камітэт, які падаў зямельнаму камісару пратэст супраць парцэляцыі, у якім патрабаванне, каб зямлю давалі беззямельным і малазямельным сялянам, ды толькі мясцовым жыхарам. Зямельны камісар даў адказ, што парцэляцыя добраахвотная і зямля даецца толькі за грошы.

Тады палачанскія сяляне пад кіраўніцтвам камітэта сабралі сход і вынеслі рэзалюцыю, у якой патрабавалася зямлю без выкупу перадаць сялянскім камітэтам і раздзяліць яе паміж беззямельнымі і малазямельнымі сялянствам. У рэзалюцыі вынеслі пратэст супраць панскай дзікай парцэляцыі і буржуазнай зямельнай рэформы".

### Цяжка было ўсюды

Аб цяжкім становішчы насельніцтва Вязынскага пастарунка Вілейскага павета паведамляецца камендантам пастарунка паліцыі Стэфанам Гедройцам каменданту павятовай паліцыі ад 20 ліпеня 1933 года: "Згодна з указаннем №С1/19 (сакр.) ад 18.02.1933 г. паведамляю, што ў сувязі з дзяжурствамі на тэрыторыі пастарунка і размовамі з насельніцтвам і інфарматарамі мною атрыманы наступныя звесткі: у вёсцы Селішча 42 гаспадаркі агульнай плошчай 76 дзесяцін зямлі, у склад якіх уваходзяць забалочаныя лугі, дзе мясцовыя жыхары нарыхтоўваюць сена на корм для жывёлы на зімовы перыяд. Але з-за таго, што насельніцтва да палавіны лета пасе скаціну на гэтых лугах, трава не паспявае адрасці і сена вельмі мала.

Паблізу вёскі ёсць дзяржаўныя і прыватныя лясы, але насельніцтва не можа атрымаць права на выпас жывёлы нават за грошы, таму што дзяржаўнае лясніцтва і прыватная адміністрацыя маёнтка Вязынь не дазваляе пасвіць скаціну, што і з'яўляецца прычынай варожага настрою насельніцтва.

Такія ж пытанні і ў вёсках Трыгузі, Кухты, Шчукі, Ярмолічы, а горш за ўсё ў Рыбчыне, дзе вельмі бедныя сяляне і ўжо цяпер 70% купляе корм для жывёлы і хлеб, а заробкаў няма і няма сродкаў на пакупку прадуктаў.

У гэтай вёсцы вялікае нездавальненне падаткамі і дзеяннямі секвестратараў, якія пазабіралі апошняе палатно ў сялян. Амаль ні ў каго з сялян няма лесу, а ім трэба паліва. Больш заможныя гаспадары купляюць яго ў Хаценчыцкай гміне, перавозяць за 25 кіламетраў. Але з-за таго, што цэны як у прыватным Вязынскім лесе, так і ў дзяржаўных лясах Вязынскай гміны вельмі высокія і малы працэнт насельніцтва купляе ці бярэ паліўныя адходы, беднейшая частка насельніцтва прыбягае да крадзяжу, бо іншага выхаду не мае, хаця і суровыя меры пакарання".

Аб цяжкім становішчы вясковага насельніцтва паведамляў каменданту Маладзечанскай павятовай паліцыі паліцэйскі Аляхновіцкага пастарунка паліцыі 5 красавіка 1934 года: "...У сувязі з агульным крызісам (у краіне) становішча насельніцтва ў вёсцы пагоршылася. Гаспадар, у якога 2-5 гектараў зямлі, можа прадаць на рынку мізэрную колькасць прадуктаў па вельмі нізкіх цэнах, у параўнанні з прадуктамі першай неабходнасці, як соль, газа і інш. Акрамя таго, матэрыяльнае становішча насельніцтва пагоршылася ў сувязі з мінулагоднім неўраджаем, у выніку чаго 75% гаспадарак у вёсках аказаліся без хлеба, а яшчэ вяскоўцы скардзяцца на мноства падаткаў, вельмі вялікіх у адносінах да цэнаў на сельгаспрадукты. У цяперашні час дробныя гаспадаркі знаходзяцца на стадыі разарэння...

У выніку вышэйсказанага, сяляне вымушаныя красці лес, прадукты харчавання. І вынік: гаспадары, у якіх па 2 га зямлі, а такіх большасць, не ў стане плаціць падаткі, карміць сям'ю, а тым больш купляць паліва на зімовы перыяд па 4,5 злота за кубічны метр".

І заключны дакумент дадзенай падборкі – вытрымка з месячнай справаздачы Вілейскага каменданта дзяржпаліцыі аб адабранні ў селяніна за даўгі па выплаце падаткаў каровы: "... 14 студзеня 1935 года па патрабаванні Вайстомскага гміннага праўлення да засядателя гэтага праўлення Будзько Андрэя быў прыстаўлены паліцэйскі для адабрання і продажу з таргоў каровы Міхаіла Кунавіча, жыхара хутара Круні Вайстомскай гміны. Калі адбіралі карову, Кунавіч стаў у дзвярах і не пускаў гласнага і паліцэйскага Вжэсня Людвіга. Калі паліцэйскі Вжэсень паспрабаваў прымяніць фізічную сілу, жонка Кунавіча, Ядвіга, а таксама Марыя Кунавіч і Ева Кунавіч учапіліся за Вжэсня і не далі яму выпхнуць з дзвярэй Міхаіла Кунавіча і забраць карову. Пасля прыходу другога паліцэйскага ўказаныя асобы не супрацiўляліся і карову добраахвотна аддалі...".

**Наталля ІВАНОВА,**
**загадчыца аддзела занальнага дзяржархіва ў Маладзечне.**

**Эканамічнае становішча вяскоўцаў у сярэдзіне 1930-х гадоў**




З сярэдзіны 30-х гадоў беднякі ў вёсцы складалі прыблізна 80%, серадні́кі – 15% і кулакі – 5%.

Аграрная рэформа, якую задумаў урад Пілсудскага, была праведзеная толькі напалавіну, таму не знішчыла буйное памешчыцкае землеўладанне і перажыткі феадальнага гаспадарання ў вёсцы. У выніку чаго беларуская вёска поўнасцю збяднела.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Далёкі В'етнам – краіна мусонаў,

## В'етнамцы заўсёды шчырыя і адкрытыя

**Стасункі паміж Сацыялістычнай Рэспублікай В'етнам і Рэспублікай Беларусь ідуць яшчэ з сацыялістычных часоў.**

Сацыялістычная Рэспубліка В'етнам не мае пасольства ў Рэспубліцы Беларусь, а між тым колькасць тых, хто студэнтаў-в'етнамцаў у нас вялікая. Мой добры знаёмы в'етнамец вучыцца ў адным з універсітэтаў Беларусі і вельмі ганарыцца якасцю вышэйшай адукацыі, якую тут атрымлівае. Першы год ён вывучаў рускую мову (з беларускай таксама ведае колькі слоў), а потым пачаў навучацца па спецыяльнасці. Канешне, веданне мовы пасля пяці гадоў у яго, мякка кажучы, неблiскучае, але некалькі сказаў звязаць можа. Для мяне да сённяшняй пары застаецца загадкай, як ен здае іспыты і залікі. Мабыць, перад выкладчыкам на яго сыходзіць нябеснае благаславенне, і ён гаворыць з чысцюткім рускім маўленнем.

Шмат часу ён не мог прызвычаіцца да еўрапейскага спосабу есці – відэльцам і лыжкай. Усё рабіў з дапамогай драўляных палачак. Свой адмысловы разварысты рыс, які в'етнамцы вараць у спецыяльным апараце накшталт нашай скараваркі з дабаўленнем шматлікіх спецыяў, ён з акрабатычнай хуткасцю запіхваў у рот. Відаць, у сталоўцы яму прыходзілася цяжка, і потым ён паціху перайшоў на металічныя прыстасаванні для яды.

Вельмі в'етнамскаму сябру прыйшлася даспадобы беларуская гарэлка. Я нават апасаўся часам заходзіць да яго ў госці, бо ён абавязкова выцягваў з лядоўні пакрытую шэранню бутэльку і гаспадарліва запрашаў за стол.

Ніхто не любіць, калі яго называюць здраднікам, але, відаць, у камуністаў-в'етнамцаў гэта пачуццё занадта абвостранае і нават гіпертрафіраванае. Аднаго разу наш агульны знаёмы дзеля забаўкі назваў так хлопца з В'етнама і, калі той спачатку не зразумеў, паказаў значэнне гэтага слова ў слоўніку. Адразу ён пашкадаваў аб гэтым. В'етнамец змяніўся ў твары, з барвовага на белы, змоўк на секунду, а потым як зароў на абражчыка, што той уцёк з пакоя. Сапраўды, мяркуючы па маім сябруку, такога пра в'етнамцаў нельга сказаць. Канешне, еўрапейская і азіяцкая культуры розняцца, але, наколькі я ўбачыў, в'етнамцы заўсёды шчырыя, адкрытыя, лёгка ідуць на кантакт і дапамогуць, калі трэба. Хаця, розныя бываюць людзі.

Але цяжка прыходзіцца грамадзянам з жоўтым ці чорным колерам скуры ў нашай краіне. Яны нездарма апасаюцца хуліганаў. Вось і майго сябра некалі збіла група маладых байструкоў, прычым, што крыўдна, у двух дзесятках метраў ад месца, дзе ён жыў. На шчасце, усё абышлося, але, думаю, жыцце ў нашай краіне будзе ўспамінацца ім не толькі светлымі плямамі. Дарэчы, я пытаўся потым і ў яго, і ў кітайскіх знаёмых, ці можа такое здарыцца ў Кітаі ці В'етнаме з чалавекам іншага колеру скуры, і яны дружна сказалі "не!". Няма сэнсу ім не верыць, і ад гэтага яшчэ больш крыўдна робіцца з-за таго, што людзі, якімі мы часцяком грэбуем і якіх час ад часу абзываем рознымі крыўднымі мянушкамі, носяць у сваёй культуры высокія маральныя якасці і не апускаюцца да жывёльных інстынктаў.

**Аляксей ЧУБАТ.**



**Студэнтка філалагічнага факультэта Мінскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка Чан Тхі Вань Ань (сярод беларусаў – Аня) і яе сябар студэнт факультэта міжнародных эканамічных адносін Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта Ву Тхан Тоан пазнаёміліся у самалёце, калі упершыню ляцелі ў Беларусь. У нашай краіне яны займаюцца па праграме міжнароднага абмену. Спасцігаюць не толькі навукі, але знаёмяцца і з нашымі звычкамі, культурай. Прызнаючыся, што з беларускай кухні больш за ўсё любяць тоўчаную бульбу з катлетай, не забываюцца і на сваё.**
**Нэм – страва з грыбоў, бульбы, морквы, рысавых макаронаў, свінога фаршу, цыбулі, адна сярод самых любімых в'етнамцамі. Яе можна прыгатаваць і ва ўмовах беларускага студэнцкага інтэрната.**

Фота Анастасіі МАНЦЭВІЧ.

## Геаграфічная даведка

**В'етнам размешчаны на Паўднёва-Усходняй Азіі, на паўвостраве Індакітай. Сталіца – Ханой (да 1975 г. – Сайгон). Афіцыйная мова – в'етнамская. Распаўсюджаная таксама англійская, французская, японская і кітайская. Час апярэджвае маскоўскі ў летні перыяд на 3 гадзіны, у зімовы – на 4 гадзіны. В'етнам мяжуе з Камбоджай, Лаосам і Кітаем і мае цудоўную берагавую лінію працягласцю 3200 кіламетраў, якая абмываецца Паўднёва-Кітайскім морам.**





**Нацыянальны герб і сцяг В'етнама.** Архіў "РГ".

## Клімат

**Клімат мусонны субэкватарыяльны са спякотай на поўдні і халаднаватым надвор'ем на поўначы зімой і рэзка вызначаным максімумам ападкаў у перыяд вільготнага мусону. Для большай часткі краіны вільготным з'яўляецца летні паўднёва-заходні ці паўднёва-ўсходні мусон, сухім – зімовы паўночна-ўсходні. У невысокіх раёнах сярэдняя тэмпература самага халоднага месяца складае ад 15 градусаў на поўначы да 25,8 градуса на поўдні, самага цёплага – 28, 29 градусаў. Нярэдка бываюць тайфуны.**

## Насельніцтва

**В'етнамцы – самая большая этнічная група – складаюць амаль 90% агульнага насельніцтва. Да нацыянальных меншасцяў на поўначы адносяцца кітайцы, тайскамоўнае насельніцтва (выхадцы з Тайланда), а на поўдні – этнічныя групы, якія жывуць на нагор'і, а таксама кхмеры (камбаджыйцы). В'етнам з'яўляецца самай густанаселенай краінай Паўднёва-Усходняй Азіі – 72 мільёны чалавек.**

## Рэлігія В'етнама

**Асноўная рэлігія В'етнама – будызм. Таксама выспаведуюцца каталіцызм, пратэстантызм, іслам, індуізм. В'етнам з'яўляецца радзімай унікальнай рэлігіі – каадаізму (спалучэнне мясцовых вераванняў з элементамі хрысціянства).**

■ **ТУРЫСТУ**

### Правілы паводзін

Народ у В'етнаме вельмі дружалюбны, і турыстам нічога не пагражае, акрамя кішэнных зладзюжкаў, якія прамышляюць у Сайгоне і іншых буйных турыстычных цэнтрах. Таму трэба ўважліва сачыць за сумкамі і не класці грошы ў дакументы і заднія кішэні штаноў.

### Грошы

Грашовая адзінка – в'етнамскі донг. 1 долар прыкладна роўны 14000 донгаў. Долары ЗША і крэдытныя карты агульнапрынятыя ў рэстаранах, атэлях і магазінах.

Увоз замежнай канверсаванай валюты не абмежаваны, але неабходна дэклараваць агульную суму.

### Што нельга везці ў В'етнам

Забаронена везці выбуховыя рэчывы, агнястрэльную зброю, весці прапаганду бунтарскага толку ці правозіць усё тое, што зневажае мясцовую культуру: кнігі і часопісы, якія мытныя чыноўнікі могуць расцаніць як небяспечныя, уключаючы выданні, што зняважаюць адлюстраванні агалёных целаў. Нельга прывозіць у В'етнам відэа- і аўдыёплёнкі без адпаведнага дазволу мытнага інспектара. Катэгарычна забароненыя таксама нелегальныя лекі ўсіх катэгорыяў.

### Жыццё

Пераважанне лідэраў-жанчын наогул характэрна для в'етнамскай гісторыі. Гісторыя В'етнама дае вялікую колькасць прыкладаў высокай палітычнай і сацыяльнай актыўнасці жанчын. У в'етнамскай вайне яны нароўні з мужчынамі ўдзельнічалі ў баявых дзеяннях.





**Асаблівасці нацыянальнай кухні.** Архіў "РГ".

## Дзе і як пад'есці ў В'етнаме

Многія замежныя турысты аддаюць перавагу рэстаранчыкам і папулярным сталоўкам, закусачным, якія сустракаюцца амаль на кожным кроку ў Хашыміне, Ханоі і іншых гарадах В'етнама.

Там за паўцаны можна атрымаць не толькі дабротны і сытны абед, але і ўсялякія в'етнамскія далікатэсы, а таксама вытанчаныя стравы з дзічыны, морапрадуктаў, жабаў, трэпангу, змей і чарапах. Абед з трох страў з кружкай выдатнага піва каштуе там не больш за 3-5 долараў, што чуць хапае на сняданак у Ганконгу ці Бангкоку. Але асабліва папулярныя ў В'етнаме закусачныя, што спецыялізуюцца на супе "фо" (суп-вермішэль з ялавічынай ці курацінай), вельмі смачнай і таннай нацыянальнай страве. Паспрабаваўшы адну піялу супа "фо" за 2500-3000 донгаў ці 20-30 цэнтаў, вы будзеце сытыя да вечара.

Расходы на харчаванне ў В'етнаме лічацца самымі мінімальнымі ў свеце, бо там круглы год шмат прадуктаў і асабліва садавіны.

**Па матэрыялах прадстаўніцтва турыстычнай кампаніі "Saigontourist".**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# будызму і танных прадуктаў

# Маладзечанскія в'етнамцы любяць бульбу

**МАЛАДЗЕЧНА. В'етнамцы прыязджаюць да нас з-за таго, што на іх радзіме няма дзе працаваць. Цікава, як в'етнамцы прызвычайваюцца да новага жыцця, бо В'етнам і Беларусь зусім непадобныя паміж сабой.**

В'етнамскія імёны і прозвішчы складаюцца з некалькіх слоў. Напрыклад, Нгуэн Віет Тоан ці Нгуэн Дзіэн Ань. Апошняе слова змяняюць на наш манер. Тоан становіцца Антонам, Ань – Аняй. Так і жывуць ў Маладзечне в'етнамскія Ніны, Маі, Вані.

Дзеці ходзяць у беларускія сады і школы. Размаўляюць па-нашаму, а іх бацькі — пасвойму. Часта дзеці разумеюць бацькоў, а адказаць ім па-в'етнамску нічога не могуць.


Ілоне ўжо надакучыў рыс «па-в'етнамску», але яна не можа жыць без азіяцкага зялёнага чаю. Фота Ірыны РАБУШКІ.


Аня (справа) лічыць сябе беларускай і вельмі баіцца міліцыянераў. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.


Любімая цацка Вані – жывая чарапаха. Фота Ірыны РАБУШКІ.

### Аня

Нарадзілася яна ў Маладзечне тры гады таму. Хаця па-в'етнамску ёй 4. Бо па-іхнім жыццё бярэ свой адлік з моманту зачацця.

Аня ходзіць у дзіцячы сад №10. А яе сястра вучыцца ў школе ў В'етнаме. Цэлы год Аню выхоўвае беларуская бабуля-маладзечанка, якую нанялі бацькі. Час ад часу яна прыводзіць і адводзіць яе ў сад, забірае на выхадныя да сябе. Маці дзяўчынкі – Ніна – лічыцца самай прыгожай в'етнамкай у Маладзечне Яна заўсёды ходзіць у чароўным капелюшы. Калі маці прыходзіць у сад і размаўляе з дачкой па-в'етнамску, Аня кажа: "Што ты гаворыш не па-нашаму. Кажы па-руску". Дзяўчынка размаўляе і на беларускай мове. Правільна вымаўляе гукі. І лічыць сябе беларускай. Дарэчы, яна вялікая прыхільніца беларускай бульбы, дранікаў, яблыкаў. Вельмі любіць рыбу. Нацыянальны рыс, які там завецца ком, не вельмі да смаку.

Нягледзячы на імкненне быць беларускай, Аня разумее, што ў яе іншая нацыянальнасць і жыве ў чужой краіне. Яна вельмі баіцца нашых міліцыянераў. У в'етнамцаў часта правяраюць пашпарты і, калі што не так, забіраюць у міліцыю.

У родны ж В'етнам Аня ехаць не хоча.

### Ваня

"Сонца тут не такое, — гаворыць ён, — у нас яно вельмі светлае! Наогул, там столькі святла! А вецер такі, што сам дзверы адчыняе! Дрэвы есці можна. Тут такіх няма. Толькі ў В'етнаме ўсё роўна жыць не хачу: крыўдзяць мяне там і сяброў няма".

Ваня вельмі сумуе па старэйшым браце, які застаўся на радзіме. Гэтым летам ён прыязджаў у Маладзечна. Але вярнуўся назад, бо трэба вучыцца, а мовы ён не ведае. Ваня ж гаворыць на англійскай, в'етнамскай, рускай мовах, а таксама вывучае беларускую. Любімая казка "Кот у ботах". А самы цікавы прадмет у школе – матэматыка. З бацькамі гуляе ў "крыжыкі-нулікі", "марскі бой". Мама часта расказвае пра В'етнам.

На святы яна пячэ в'етнамскі торт, упрыгожвае яго вінаградам ці бананамі. Калі рысу дома няма, то і яды няма. Ваня, як сапраўдны беларус, любіць бліны і мяса.

Цяпер ён чакае зіму, якая вельмі падабаецца. У В'етнаме яна не такая. В'етнамскі Дзед Мароз да яго апошні раз прыходзіў у дождж. Пакуль Ваня возіцца з чарапахай, якая яму вельмі падабаецца. Маўляў, яна так павольна ходзіць, што згубіць яе немагчыма. А нешта губляць так балюча.

### Ілона

Цяпер ідзе яе самая любімая пара года. Менавіта з-за таго, што нарадзілася восенню.

Пра В'етнам Ілона ведае па фотакартках, "тэлевізійнай талерцы" і ад бабулі, якая цяпер прыехала з в'етнамскага сяла да яе ў госці. Напэўна, гасцінцы са свайго саду, белых гранатаў, прывезла. Дрэвы ў В'етнаме высокія-высокія – да 30-50 метраў. А вось яблыкі нясмачныя, маленькія і з вялікімі костачкамі, прывозяць з Кітая. Каб іх немагчыма было вырасціць у В'етнаме, кітайцы апрацоўваюць яблыкі. Костачка становіцца "мёртвай", а колер плода больш чырвоным.

Ілончына бабуля задумала з семачак нашых яблыкаў вырасціць у В'етнаме яблыні. Вельмі любяць в'етнамцы зялёны чай. Але той, што прадаюць ў нас, – не для іх. Ілона расказвае, што калі хто-небудзь з маладзечанскіх в'етнамцаў едзе на радзіму, абавязкова прывозіць многа-многа сапраўднага в'етнамскага чаю. У нас любяць пасмакаваць фруктовы чай у пакецiках альбо чай з сухафруктамі. Кожны дзень маці гатуе рыс у электракаструлі. Але ён Ілонцы надакучыў. Вось бульба – іншая справа! В'етнамскія стравы маці яе вучыла гатаваць з 5 гадоў. Нават да святочнага стала, што вельмі складана.

Галоўныя святы ў В'етнаме – Новы год, які святкуецца ў лютым і абавязкова ў поўню, і 2 верасня – Дзень Рэспублікі. У святы апранаюцца ў нацыянальныя касцюмы. Вераць у прадказанні, бо яны збываюцца. Навучыцца прадказваць немагчыма. Гэты дар даецца звыш. Да прадказальнікаў займаюць чэргі з 3-4 гадзін раніцы. Прадказваюць па спецыяльнай кнізе, лісцям з любімага дрэва, па твары, руцэ. У дзень прымаюць каля 40 чалавек.

1 і 15 числа кожнага месяца ў В'етнаме лічыцца днём ахвяраванняў: рэжуць курэй ці раздаюць садавіну бедным. Дарэчы, даволі дакладна в'етнамцы падзяляюцца на багатых і бедных. Прыкладам, настаўнікі, асабліва старэйшых класаў, лічацца багатымі. Адзін з паказчыкаў багацця – вада. Калодзеж – гэта каштоўнасць, а гарачая і халодная вада ў кране – раскоша. На бедных дамах дах востры, а на багатых – пляскаты. Машын на вуліцах мала, бо яны вельмі дарагія. На матацыклах ездзяць усе, каму не лянота.

Грошы в'етнамцы ў скрыні не складаюць. Купляюць золата. Яно белае і "мяккае". Упрыгожванні з яго толькі на святы надзяваюць.

... Цікавыя і чароўныя гэтыя в'етнамцы. Дарослыя падобныя на дзяцей, а дзеці – на маленькіх дарослых.

**Ірына РАБУШКА.**

## Звычкі і заняткі в'етнамцаў

**В'етнамцы складаюць большасць насельніцтва ва ўсіх раёнах В'етнама. Іх каля 35 млн. чалавек, 500 тысяч з якіх жыве за межамі В'етнама, галоўным чынам у Камбоджы, а таксама ў Тайландзе, Лаосе. Гавораць на в'етнамскай мове.**

Сярод большай часткі веруючых В'етнама распаўсюджаны будызм, які цесна пераплятаецца з даасізмам і канфуцыянскімі рэлігійнымі ўяўленнямі, а таксама з культам продкаў. Значную ролю іграюць каталіцызм і вучэнні мясцовых сектаў, перш за ўсё каадаізм.

Асноўны занятак в'етнамцаў – земляробства (рыс, кукуруза, батат, бавоўна, чай, кунжут) і рыбалоўства. Частка насельніцтва занятая ў прамысловасці і водным транспарце. З мастацкіх рамёслаў развітыя паліхромны лакавы роспіс, ганчарства, латунна-чаканная вытворчасць, апрацоўка косці, чарапашага панцыра, рога. Аснову харчавання складаюць рыс, агародніна, рыбныя прадукты. Стойка зберагаецца нацыянальны касцюм, асабліва ў жанчын (шырокія шаравары і халат з высокімі бакавымі разрэзамі). Рознабаковае народнае музычнае, харэаграфічнае і тэатральнае мастацтва. Папулярнасць патрыятычных сюжэтаў здаўна характэрнае для мастацтва В'етнама.


В'етнамскія сяляне садзяць рыс. Архіў "РГ".

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Гелянова – горад у горадзе

**Прыемна бачыць на гарадскіх аўтобусах меладычны і загадкавы надпіс "Гелянова", які з'явіўся не так ужо і даўно. Шкада толькі, што на некаторых. На большасці ж маршрутных аўтобусаў такі празаічны – "Хлебазавод".**

А шкада таму, што я з "геляноўскіх", і, выходзіць, да ўсяго гэтага ёсць свае адносіны.

Гелянова (варыянт Галянова – рэд.) – гэта горад у горадзе. Маладзечна як горад яшчэ ў 1951 годзе заканчваўся былым чыгуначным паркам па вуліцы Рэвалюцыйнай (цяпер імя Прытыцкага) і гарадскім рынкам на месцы цяперашняга паштамта і жылога дома з магазінам "Юбілейны". Далей ішлі агародніннныя склады. І за дарогай на Вільнюс і полем, якое стала потым гарадскім паркам, на ўзвышэнні ў сонечныя дні бачыцца былая, у класічным стылі, каланада аркі – галоўны ўезд у Гелянова.

Яе даўно няма, засталося толькі нейкае падабенства ў выглядзе ўваходу ў гарадскі парк з боку вуліцы Маркава.



### Галоўны ўезд у Гелянова

**По абодва бакі аркі і вуліцы Жданава (цяпер імя Машэрава) на каменных слупах былі замацаваныя металічныя ланцугі, канцы якіх у зубах трымалі два белыя львы на п'едэсталах. Кажуць, што гэтыя львы знаходзяцца ў парку пасёлка Беразінскае. Саму ж арку ў канцы пяцідзесятых гадоў узарвалі, бо яе праезд быў вузкім і прызначаўся для конных экіпажаў і невялікіх аўтамабіляў, а таму ствараў складанасці для руху аўтамабіляў рознага памеру.**

Фота з фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне.

## Галоўны ўезд

Гэта было мануменальнае збудаванне з галоўным праездам пасярэдзіне і пешаходнымі праходамі па баках. З правага боку знутры была драўляная лесвіца наверх, дзе знаходзіўся службовы пакой з печкай з белай кафлі і балкон з поручнямі ў бок плошчы перад стадыёнам.

З гэтага балкона мы падлеткамі маглі бясплатна глядзець футбольныя матчы на стадыёне.

По абодва бакі аркі і вуліцы Жданава (цяпер імя Машэрава) на каменных слупах былі замацаваныя металічныя ланцугі, канцы якіх у зубах трымалі два белыя львы на п'едэсталах. Кажуць, што гэтыя львы знаходзяцца ў парку пасёлка Беразінскае.

Саму ж арку ў канцы пяцідзесятых гадоў узарвалі, бо яе праезд быў вузкім і прызначаўся для конных экіпажаў і невялікіх аўтамабіляў, а таму ствараў складанасці для руху аўтамабіляў рознага памеру.

Можа, так і трэба было зрабіць, але ўпэўнены, што можна было знайсці іншае рашэнне, каб захаваць гэту архітэктурную славутасць не толькі Гелянова, але і Маладзечна ў цэлым.

## Што было ў Гелянове

Не сустракаў такога даведніка, дзе б тлумачылася паходжанне назвы Гелянова. Ёсць меркаванне, што калісьці гэтае месца належала знатнай польскай пані Алене (па-польску Gelena), але дакладна вядома, што тут знаходзіўся ваенны гарадок з поўным замкнутым цыклам жыццязабеспячэння.

Будаўніцтва яго пачалося пасля Рыжскага мірнага дагавора 1921 года, калі Заходняя Беларусія, а разам з ёй і Маладзечна, апынуліся пад уладай буржуазнай Польшчы.

Будавалі, трэба сказаць, грунтоўна, з разлікам на доўгае ўладанне. Таму да нашых дзён, нягледзячы на нямецкую акупацыю і разруху ў ходзе вайны, практычна ў першапачатковым выглядзе захаваліся шэрыя трохпавярховыя жылыя "дамы-блізняты", якія размешчаны справа і злева ад галоўнай аркі; чатыры жылыя двухпавярховыя дамы па вуліцы і завулку Чкалава, тры жылыя двухпавярховыя дамы ў канцы вул. Машэрава, вадакачка, двухпавярховы будынак за стадыёнам, дзе сёння знаходзіцца чацверты корпус гарадской бальніцы, двухпавярховы асабняк у садзе ў раёне вуліцы Маўчанскага, цяпер тут цэнтр мастацкай творчасці; будынак былога, відаць, афіцэрскага клуба і вялікі шматвуглавы цагляны будынак казармаў (цяпер інтэрнат палітэхнікума). Практычна няма старога парку з тэніснымі кортамі ў раёне вуліцы Чайкоўскага, няма і напамінку пра адкрыты басейн.

Амаль не захаваліся армейскія канюшні і зусім сцёрта будаўніцтва прамысловых прадпрыемстваў (заводы ЖБІ і ЖБК, завод металаканструкцый, мэблевая фабрыка), не захавалася і ваеннае стрэльбішча, якое было да канца 50-х гадоў. Гэта быў таксама значны аб'ект, потым перададзены ДТСААФ, з агнявымі рубяжамі на 25, 50, 100 і 250 метраў і бетоннымі бліндажамі для карэкціроўкі стральбы.

Затое захаваліся, хаця і страцілі першапачатковае прызначэнне бамбасховішчаў, лабірынты падзямелляў, у якіх вельмі лёгка заблудзіцца. Уваходы ў іх узвышаюцца ў двары цяперашняга інтэрната палітэхнікума і за стадыёнам у двары вышэйзгаданага чацвертага корпуса гарбальніцы. Раней бамбасховішчы былі ахоўваемымі аб'ектамі з падключаным энергазабеспячэннем, сувяззю і водазабеспячэннем і ўтрымліваліся ў поўнай гатоўнасці на выпадак ваеннай трывогі.

Абласная адміністрацыя з'явілася ў горадзе пасля яго вызвалення ў 1944 годзе ў сувязі са стварэннем Маладзечанскай вобласці замест Вілейскай.

Вядома ж, Гелянова стала самым зручным месцам для яе размяшчэння, а сам гэты раён горада стаў элітным.

У самым вялікім будынку казармаў размясціліся абком партыі і аблвыканком. У шэрых "дамах-блізнятах" пасяліліся сем'і абласных кіраўнікоў. У адным з гэтых дамоў прайшло дзяцінства вядомай дэмакраткі часоў "перабудовы" Галіны Старавойтавай, чыё заказное забойства ў Санкт-Пецярбурзе да цяперашняга часу не раскрытае.

Першыя сакратары абкома, у тым ліку і апошні з іх чалавек-легенда Сяргей Прытыцкі, аддавалі перавагу асабняку ў садзе ў старым парку, там было прасцей і з ахovай.

Для бачнага раўнапраўя партыі і Саветаў у канцы вуліцы побач з аўтобусным прыпынкам "Хлебазавод" у садзе быў пабудаваны арыгінальнай архітэктуры асабняк для старшыні аблвыканкома. Пасля скасавання Маладзечанскай вобласці ў 1960 годзе ў абкомаўскім асабняку пачаў працаваць дзіцячы сад, а ў "губернатарскі" па чарзе засяляліся першыя сакратары Маладзечанскага райкома КПБ. За апошнім, калі не памыляюся, ён і застаўся. У будынку за стадыёнам, дзе цяпер бальнічны корпус, размяшчалася абласная міліцыя, а ў драўляным будынку аптэкі – спецпаліклініка.

Элітнай была і сярэдняя школа №2. Улічваючы, што ў ёй займаліся на мове Пятра І "дзеці бацькоў знакамітых", для работы ў школе падбіраліся лепшыя педагагічныя кадры. З удзячнасцю ўспамінаю літаратуразнаўцу Д.Гурчанку, матэматыка А.Генкіну, гісторыка Е. Лебедзеву, хіміка Н.Капыток і многіх іншых.

## Сучаснае Гелянова

Час унёс свае карэктывы ў абліччa Гелянова. Пабудаваны сучасны медыцынскі комплекс, новы будынак СШ №2, Дом культуры будаўнікоў, ФАК, рэканструяваны стадыён, стварыўся на заходнім баку прамысловы вузел, узведзены манумент у гонар тых, хто загінуў пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Мне імпануе такая перамешанасць гісторыі і сучаснасці. Не разбураць (гэта нескладана), а прыбаўляць да таго, што засталося ў спадчыну, і, галоўнае, ісці далей.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# Сучасныя пабудовы ў былым польскім ваенным гарадку ў Гелянове



**Маладзечанскі гарадскі басейн. Адкрыты 19 красавіка 1970 года. Размешчаны на тэрыторыі былога ваеннага гарадка ў Гелянове. Да 1973 года басейн быў Домам фізічнай культуры "Маладосць". Потым у гэтым будынку размясцілася дзіцячая юнацкая спартыўная школа "Спартак".**

Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.



**Маладзечанская гарадская бальніца. Пасля заканчэння другой сусветнай вайны на тэрыторыі ваеннага гарадка ў Гелянове ўцалела некалькі будынкаў. Там у 1945 годзе абсталявалі паліклініку, якая складалася з тэрапеўтычнага, гінекалагічнага, зубнога кабінетаў і аптэкі. Загадчыкам прызначылі доктара Баса.**

Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



## ВІНШАВАНКІ

Віншуем з днём нараджэння чулую і абаяльную **загадчыцу дз/с №5** з Вілейкі! Здароўя, шчасця! *Калектыў работнікаў.*

Віншуем з днём нараджэння **Вольгу Пятроўну Супрановіч** з Вілейкі! Жадаем шчасця і здароўя. *Калектыў дз/с №5.*

Віншуем з днём нараджэння **Марыю Сямёнаўну Кавецкую**! Няхай цябе заўсёды Бог аберагае і ласку шчодра пасылае. *Сыны і іх сем'і.*

**Палінцы Клімовіч** з Маладзечна. З днём нараджэння! Гадуйся, дачушка, здаровай, прыгожай, шчаслівай. Мы цябе вельмі любім. *Матуля і татачка.*

Віншуем **Карынку Гіль** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, вучобы на 10, паслухмянасці. *Сям'я Цішко.*

Віншую сяброўку **Наталлю Самаль** з днём нараджэння! Жадаю здароўя, кахання, шчасця і здзяйснення ўсіх жаданняў. *Твая Танюша.*

**Аляксандр Цупа**, віншую з днём нараджэння! Шчасця, даўгалецця, узаемнага кахання, дабрабыту, моцнага здароўя. *Сястра Людміла.*

**Аляксандру Цупу**. Сынок, віншуем з 19-годдзем! Жадаем шчасця, здароўя, паспяхова закончыць тэхнікум, кахання, дабрабыту.

Віншуем **Алену Найлавец** з Мядзела з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту, вечнай маладосці. *Эдуард і сям'я Віржыкаў.*

**Святлану Харытонаву** віншуем з днём нараджэння! Жадаем усяго найлепшага. *Бацькі, дачка Наталля.*

**Зою Кабак** віншуем з юбілеем. Не забывайся, што "в 45 баба ягодка опять". *Ніна, Марына з Вілейкі.*

Віншую з 25-годдзем **Наталлю Кіслую**! Шчасця, здароўя, здзяйснення ўсіх мар, дарагая сяброўка. *Таццяна.*

*Дзяўчаты зачысткі і кантралёры АТК "Буддэталяў"* віншуюць **Зою Кабак** з юбілеем! Здароўя, шчасця і дабра жадаем мы табе заўсёды.

## ЗНАЁМСТВЫ

Разведзены мужчына пазнаёміцца з адзінокай жанчынай з кватэрай у горадзе. Пра сябе: 46/172/72, Леў, жыву на дачы. 222310, Маладзечна, п/п МС 0585391.

Удава 46/165/60 спадзяецца сустрэць надзейнага спадарожніка жыцця, які зразумее і падтрымае ў цяжкую хвіліну. Маладзечна-6, п/п МС 0505502.

■ КОНКУРСЫ




Каманда вучняў з СШ №2 праз 5 хвілін пасля гульні.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

# 13 – лічба шчаслівая, або Што? Дзе? Калі?

**МАЛАДЗЕЧНА. У паўфінале гарадскога конкурсу "Што? Дзе? Калі?" вызначылася 7 каманд-пераможцаў. Яны выйшлі ў фінал. Усяго ўдзельнічала 11 школьных каманд па 7 чалавек.**

Дзесяцікласнікі за паўтара месяца да пачатку конкурсу даведаліся тэму – гісторыя Беларусі і нашага горада. Усё гэта школьнікі ўжо вывучалі раней.

Кожнай камандзе задалі па 18 пытанняў і прапанавалі 4 варыянты адказаў. На падрыхтоўку адвялі 30 секунд. Але гэтага хапала, каб нават і малюнкі зрабіць. Вучні з СШ №2 умудрыліся гістарычных персанажаў намаляваць. Настаўнікі, якія рыхтавалі дзяцей да конкурсу, зазначылі, што пытанні былі не цяжкія. Да таго ж, усе ўдзельнікі — аматары гісторыі.

Але былі пытанні, адказ на якія мала хто ведаў. Напрыклад, на пытанне "Хто кіраўнік народнага ансамбля "Спадчына"?", адказвалі, што Рыгор Сарока. На самой справе ён – дырэктар музычнага вучылішча. І толькі 1 каманда адказала правільна. Гэта Іосіф Сушко.

Каманда СШ №2 набрала найбольшую колькасць балаў –13.

Фінал адбудзецца 22 лістапада. Тэма ўжо вядомая – літаратура і мастацтва Беларусі. Пераможцай будзе толькі адна каманда.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Пірожнае «Цюнь»

**(В'етнам)**

Рыс замачыць ў вадзе на 5 мінут, прамыць, адцадзіць і пасаліць. Фасоль, папярэдне замочаную, абдаць кіпенем, расцерці ў парашок і заправіць соллю. Свініну прапусціць праз мясарубку, заправіць нацёртай цыбуляй, працёртымі анчоусамі, соллю і перцам. На прамытыя капусныя лісты (ашпараныя крутым кіпенем і складзеныя па два) пакласці зверху мяса, фасоль і рыс, туга згарнуць, як галубцы, і перавязаць ніткай. Варыць у падсоленай вадзе 10-12 мінут, вымыць і пакласці пад гнёт, каб сцякла вада. Падаць з дробна нарэзанай цыбуляй.

## Рыс па-в'етнамску

Рыс прамыць ў некалькіх водах, адцадзіць, заліць вадой і варыць. Пасаліўшы, даць пакіпець 5 мінут, затым пакласці цэлую цыбуліну і паставіць тушыць, пакуль рыс не ўбярэ ўсю ваду. Шчыльна накрыць каструлю крышкай і пакінуць на 15 мінут на вадзяной лазні. Перад падачай пасыпаць мускатным арэхам і пакласці сметанковае масла (кусочкамі).

## Сатэ

Свініну, нарэзаную дробнымі кусочкамі, пасыпаць соллю, чорным молатым перцам, паліць сокам лімона, надзець на шпажку і абсмажыць на рашотцы, а сок, што выцякае з мяса, сабраць у талерку. Дробна нарэзаную цыбулю абсмажыць на алеі, дабавіць муку, цукар, мясны і лімонны сокі, смятану, соус. Усё пракіпяціць і пакласці сюды мяса. На гарнір падаць адварны рыс.

## Рэпертуар Мінскага абласнога драматычнага тэатра на лістапад



### РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ

| | |
|---|---|
| 3 нядзеля 12.00 | **"Мымрык"** (казка-жарт для дзяцей і іх бацькоў) Валянцін Афонін |
| 21 чацвер 12.00 | **"Добры змей"** (лясная казка) Аляксей Якімовіч |

### ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ

| | |
|---|---|
| 1 пятніца 19.00 | **"Хочаш вер – хочаш не вер"** (жартоўная камедыя ў 2-х дзеях) Юрый Вута |
| 2 субота 17.00 | **"Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага і Ф.Аляхновіча) Уладзімір Рудаў |
| 5 аўторак 17.00 | **"Вечар"** (лірычная меладрама) Аляксей Дудараў |
| 8 пятніца 19.00 | **"КІМ"** (меладрама ў 2-х дзеях) Аляксей Дудараў |
| 10 нядзеля 17.00 | **"На другі дзень Сёмухі"** (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы) Юрый Вута |
| 13 серада 19.00 | **"Восем закаханых жанчын"** (сямейны дэтэктыў у 2-х дзеях) Рабер Тама |
| 20 серада 19.00 | **"Чорная нявеста"** (меладрама ў 2-х дзеях) Жан Ануй |
| 21 чацвер 19.00 | **"Характары"** (лірычная камедыя) Васіль Шукшын |

### Гастролі Дзяржаўнага «Маладзёжнага тэатра»

| | |
|---|---|
| 15 пятніца 14.00 | **"Па зялёных узгорках акеана"** С.Казлоў |
| 19.00 | **"Чорт выстаўлены аслом"** (па матывах сярэдневяковых французскіх эратычных фарсаў) С.Казлоў |
| 16 субота 11.00 | **"Па зялёных узгорках акеана"** С.Казлоў |
| 17.00 | **"Позняе каханне"** (меладрама ў 2-х дзеях) А.Астроўскі |
| 17 нядзеля 17.00 | **"Віндзарскія насмешніцы"** (камедыя ў 2-х дзеях) У.Шэкспір |

**Мастацкі кіраўнік – заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Мікалай МАЦКЕВІЧ.**

## Рэпертуар Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка» на лістапад 2002 года

| | |
|---|---|
| 2.11. субота | Прэм'ерны паказ. У.Грамовіч. **"Тыграня Петрык"** |
| 3.11. нядзеля | П.Васючэнка. **"Новы Калабок"** |
| 9.11. субота | М.Андрэеў. **"Вясёлкі Батлейкі"** |
| 10.11. нядзеля | Р.Осцер. **"Прывітанне для Малпачкі"** |
| 16.11. субота | В.Мятальнікаў. **"Спячая прыгажуня"** |
| 17.11. нядзеля | Прэм'ерны паказ. У.Грамовіч. **"Тыграня Петрык"** |
| 23.11. субота | І.Сідарук. **"Меч анёла"** |
| 24.11. нядзеля | С.Кавалёў. **"Заяц варыць піва"** |
| 30.11. субота | Х.Пэнтэр. **"Насарог і Жыраф"** |
| 1.12. нядзеля | П.Васючэнка. **"Новы Калабок"** |

**Пачатак спектакляў у 12 гадзін. Каса працуе з 10 гадзін. Даведкі па тэл. 5-36-73, 6-84-27. Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: вул. Драздовіча, 5-в.**

■ ТЭАТР "БАТЛЕЙКА" ЗАПРАШАЕ

## Новы Калабок

Жылі-былі Дзед і Баба. І была ў іх Свіння, якая толькі і ведала, што есці і есці. Ды і Дзеду з Бабай трэба штосьці есці. А што з'есі, калі ў хаце амаль нічога няма?! Толькі мука ды бульба... "Раз гэта ёсць, то будзе Калабок!", — вырашыў Дзед. Спяклі. Але ж які ён незвычайны атрымаўся: і спявае, і размаўляе. Шкада такога з'есці Дзеду і Бабе. А Свінні не шкада. Нічога не засталося Калабку, як толькі ўцякаць. Але ён не паспеў растлумачыць, што ў ім такога, што нельга яго з'есці. Запрашаем вас разгадаць сакрэцік нашага "Новага Калабка. Абяцаем – будзе цікава!

**Таццяна ЧАЕЎСКАЯ.**

### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон 44** рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».**
**Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.**
**Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

■ ІМЯНІНЫ

**1 лістапада**
**Праваслаўныя**: Івана.
**Каталіцкія**: Усіх Святых.

**2 лістапада**
**Праваслаўныя**: Арцёма.
**Каталіцкія**: ДЗЯДЫ (Задушны дзень), Багдана.

**3 лістапада**
**Праваслаўныя**: ДЗЯДЫ (Бацькоўская памінальная субота), Іларыёна, Феафіла, Якава.
**Каталіцкія**: Сільвіі, Марціна.

**4 лістапада**
**Праваслаўныя**: Іконы Казанскай Божай Маці, Ганны, Фядоцці, Аляксандра, Антона, Дзяніса, Івана, Канстанціна.
**Каталіцкія**: Альгерда, Караля.

**5 лістапада**
**Праваслаўныя**: Ігната, Якава.
**Каталіцкія**: Захарыя, Славаміра.

**6 лістапада**
**Праваслаўныя**: Апанаса.
**Каталіцкія**: Фелікса.

**7 лістапада**
**Праваслаўныя**: Анастаса.
**Каталіцкія**: Энгельберта.

## Кінатэатр «Радзіма»

**1-3 лістапада**
**"Чалавек-павук"**, ЗША – 15.00, 17.00, 19.00 і 21.00.
**4-7 лістапада – "Уладар кольцаў: брацтва кальца"**, ЗША, 2 серыі. Сеансы: 4 і 5 лістапада – у 18.00 і 21.00; 6, 7 лістапада – у 15.00, 18.00 і 21.00.

**Для старэйшых школьнікаў:**
**2 лістапада – "Агент па клічцы Спот"**, ЗША, камедыя – у 15.00. **3 лістапада – "Чалавек-павук"**, ЗША, прыгоды – у 15.00. **4 лістапада – "Вірус кахання"** – у 15.00. **5 лістапада – "Інспектар Гаджэт"**, ЗША, камедыя – у 15.00.

**Для малодшых школьнікаў:**
**2 лістапада – "Русалачка"**, ЗША, казка – у 12.00. **3 лістапада – "Сакрэт Н-І-М-Х"**, ЗША, казка – у 12.00. **4 лістапада – "Пакахонтас-2"**, ЗША, прыгоды – у 12.00. **5 лістапада – "Цуда-сланяня"**, ЗША, камедыя – у 12.00. **6 лістапада – "Атлантыда: закінуты свет"** – у 12.00. **7 лістапада – "Вялікая мядзведзіца"**, ЗША, казка – у 12.00.

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно



Прывітанне, шаноўныя! Большасць тых, хто патэлефанаваў, дала правільны адказ – Гары Потэр. З паняздзелка запрашаю ў рэдакцыю па білеты ў кіно Ганну Балкоўскую, Сашу Кендыша, Юру Мінца, сям'ю Лябедскіх, Віку Рысік, Юрыя Юхневіча і Вікторыю Атрошчанку.

Наступнае заданне. Амерыканскія вучоныя звярнулі ўвагу, што несапраўдныя ўспаміны можна пераносіць у чалавечы мозг. Даследчыкі вашынгтонскага універсітэта даказалі, што здольныя застаўляць людзей "памятаць" тыя падзеі, якіх не было ў сапраўднасці. Прыкладна трэцяя частка людзей, якім расказвалі выдуманыя навіны, уключаючы сустрэчу з кролікам Бані Багсам, гаварылі, што яна ўспамінаецца ім як гісторыя, якая рэальна адбылася. У эксперымент уваходзіла чытанне артыкула з апісаннем наведвання Дыснейленда, дзе госці сустракалі кроліка. Але гэта не магло быць у сапраўднасці. Чаму?

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін – 5 лістапада, 15-00) і прыходзьце па запрашальныя білеты на дваіх на фільм у маладзечанскім кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

